БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 1—3, 1929

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 1—3

Студзень—Сакавік
1929 г.




ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1929

# ПАСТАНОВА

## Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР па дакладу т. Барсукова аб працы Цэнтральнага К-ту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу

*(Выпіс з пратаколу № 71, п. 803 2 сакавіка 1929 г.).*

Заслухаўшы даклад Старшыні Цэнтральнага Камітэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу т. Барсукова, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага К-ту адзначае, што лінія работы Цэнтральнага К-ту Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу была правільнай і адпавядала задачам санітарнае абароны краіны і санітарнаму аздараўленьню шырокіх мас працоўных.

Прымаючы пад увагу, што Беларускі Чырвоны Крыж, як адна з формаў рабоча-сялянскай грамадзкасьці, мае вялізарнае значэньне ў справе санітарнае абароны краіны і зьяўляецца правадніком санітарнае культуры сярод працоўных гораду і асабліва вёскі і што шэраг арганізацый яшчэ не дастаткова зварочвае ўвагу на справу Чырвонага Крыжу—Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту пастанаўляе:

1) Прапанаваць Акруговым і Раённым Выканаўчым Камітэтам адносіцца з большай увагай да патрэб і запытаньняў Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, часьцей заслухоўваць яго справаздачныя даклады на сваіх пасяджэньнях.

2) Дзеля практычнага ажыцьцяўленьня Беларускім Т-вам Чырвонага Крыжу задач культурнай рэвалюцыі і санітарнае абароны краіны, прапанаваць Цэнтральнаму Камітэту ўзмацніць працу па санітарнай падрыхтоўцы працоўных, шляхам далейшага разгортваньня Гурткоў Першай Дапамогі і Сані-

тарных Дружын на рабочых прадпрыемствах і асабліва на сацыялістычным сэктары сялянскае гаспадаркі—у калгасах, камунах і саўгасах, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на якасьць працы Гуртко́ў Першае Дапамогі і Санітарных Дружын, а таксама на большае азнаямленьне шырокіх працоўных мас насельніцтва з прыёмамі газавай абароны.

3) Паставіць перад Цэнтральным К-там Т-ва Чырвонага Крыжу, як адну з галоўнейшых задач, шырокае ўцягненьне ў свае шэрагі работніц—асабліва сялянак (батрачак, беднячак і серадначак).

4) Пытаньні культурнай рэвалюцыі і санітарнае абароны краіны ставяць перад Беларускім Чырвоным Крыжам задачы ўсямернага выкарыстоўваньня сваіх ячэяк, Гуртко́ў Першае Дапамогі і Санітарных Дружын для барацьбы з санітарнай адсталасьцю беларускай вёскі. Тут ячэйкі Чырвонага Крыжу павінны зьяўляцца ў той жа час і ячэйкамі новага быту, якія сваім прыкладам, практычнай дзейнасьцю павінны прышчэпліваць беларускаму сялянству здаровыя санітарныя навыкі. Будаўніцтва лазьняў, студняў, пляніроўка вёскі, дрэванасадкі, барацьба з заразнымі хваробамі, з алкагалізмам, з рэлігійнымі забабонамі, дапамога маці-сялянцы ў выхаваньні дзяцей,—павінны прыцягнуць да сябе ўвагу працаўнікоў Чырвонага Крыжу і быць у цэнтры ўсёй сялянскай работы. Чырвонаму Крыжу неабходна ўсямерна актывізаваць самадзейнасьць шырокіх мас сялянства для аздараўляючых мерапрыемстваў.

Усю сваю работу па аздараўленьні працы і быту Беларусі Чырвоны Крыж павінен узгадняць з Народным Камісарыятам Аховы Здароўя.

5) Прапанаваць ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу, а таксама і Акруговым К-там на мясцох, у мэтах пашырэньня масавай санітарнай работы Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу на вёсцы, забясьпечыць хаты-чытальні, нардамы і клюбы літаратурай па першай дапамозе і сан. асьвеце. Прапанаваць Нар. Кам. Асьветы ўключыць у абавязкі працаўнікоў хат.-чытальняў аказываць садзейнічаньне органам Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу пры правядзеньні імі паказнай работы, шляхам прадстаўленьня памяшканьняў для заняткаў, арганізацыйнай дапамогі і інш.

6) Надаючы вялікае значэньне Школе Мэдычных Сясьцёр, як адзінай у БССР навучальнай установе, якая падрыхтоўвае сярэдні мэдычны пэрсанал, так патрэбны органам аховы зда-

роўя,—прапанаваць Наркамасьветы падрыхтаваць пытаньне аб пераводзе ў будучым 29/30 бюджэтным годзе Школы на дзяржаўны бюджэт. Адначасова з гэтым узьняць хадайніцтва перад ЦВК СССР аб выдачы Выканкомам Саюзу Чырвоных Крыжоў і Чырвоных Паўмесяцаў доўгатэрміновага крэдыту Цэнтральнаму К-ту Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ў разьмеры 300.000 руб. для пабудовы будынку школы і інтэрнату для сясьцёр. Прапанаваць Менскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту да пабудовы новага будынку забясьпечыць школу мэд. сясьцёр неабходным памяшканьнем.

7) Прапанаваць усім Акруговым і Раённым Выканаўчым Камітэтам аказваць садзейнічаньне Беларускаму Чырвонаму Крыжу ў атрыманьні ім неабходных памяшканьняў для разгортваньня сеці мэдыка-санітарных установ, харчовых пунктаў, лазьняў і гарбатняў.

8) Лічыць мэтазгодным правядзеньне Беларускім Т-вам Чырвонага Крыжу ў гэтым годзе кампаніі па збору сродкаў на пабудову санітарнага самалёту. Прапанаваць усім органам улады і гаспадарчым арганізацыям усямерна садзейнічаць Беларускаму Т-ву Чырвонага Крыжу ў правядзеньні гэтай кампаніі.

9) Дазволіць Беларускаму Т-ву Чырвонага Крыжу правядзеньне штогодна ў красавіку месяцы „Тыдню Чырвонага Крыжу“, з арганізацый усялякага роду збораў, правядзеньнем спэктакляў і інш. на ўзмацненьне сродкаў Т-ва.

10) Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР узмацніць нагляд і кантроль за поўным і сваечасовым паступленьнем на карысьць Т-ва Чырвонага Крыжу ўстаноўленых збораў.

11) Прызнаць Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу адзінай правамоцнай арганізацыяй у БССР на вядзеньне справы абароны матар'яльных інтарэсаў грамадзян БССР у замежных краінах, з якімі няма нармальных дыплёматычных і консульскіх зносін.

12) Прапанаваць Нар. Кам. Унутраных Спраў абавязаць падпарадкаваныя яму органы на мясцох усебакова садзейнічаць Беларускаму Т-ву Чырвонага Крыжу ў выяўленьні асоб, якія маюць права на атрыманьне сум з-за мяжы, і адшуканьне гэткіх асоб па загадах Т-ва праводзіць у самым тэрміновым парадку. Абавязаць усе мясцовыя органы ўлады ўсебакова

дапамагаць грамадзянам БССР, якія прад'яўляюць матар'яльныя прэтэнзіі за мяжу праз Чырвоны Крыж, у выкананьні неабходных для гэтага фармальнасьцяй.

13) Прапанаваць Цэнтральнаму Камітэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, пасьля шырокага абгаварэньня на ячэйках, прадставіць у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага К-ту ў 3-хмесячны тэрмін праект новага статуту Таварыства, адпавядаючага задачам, намечаным 2-м Усебеларускім Зьездам Чырвонага Крыжу і гэтай пастановай.

Сакратар ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

# На новым этапе працы

У жыцьці кожнай арганізацыі ёсьць моманты, якія адзначаюць дзейнасьць гэтае арганізацыі ў пэўны пэрыяд часу. У жыцьці Беларускага Чырвонага Крыжу гэткімі найбольш характэрнымі момантамі зьяўляюцца Зьезды і Пленумы Таварыства, а таксама і тыя выступленьні, якія рабіў Беларускі Чырвоны Крыж у дзяржаўных і грамадзкіх установах як у сваёй Рэспубліцы, у межах Савецкага Саюзу, так і за мяжой. Трэба акрэсьлена сказаць, што ў сэнсе папулярызацыі сваёй працы, Беларускі Чырвоны Крыж скарыстаў усё магчымае, каб пазнаёміць з сабой цэльны шэраг арганізацый. У Маскве, Тыфлісе, Менску і нават у Парыжы, Беларускі Чырвоны Крыж дакладваў аб сваёй працы і аб тых чарговых задачах, якія перад ім стаяць. У гэтай галіне зроблена вялізарная праца і цяпер трэба пажадаць, каб гэтыя даклады не замыкаліся ў вузкіх колах кіруючых органаў, а хутчэй бы выносілся на абгавараньне шырокіх рабочых і сялянскіх сходаў. Наша асноўная задача—вынесьці крытыку Чырвонага Крыжу непасрэдна на прадпрыемствы, на сэкцыі гарадзкіх Саветаў, на шырокія сялянскія сходы, і там, ва ўсю шырыню, разгарнуць нашу праграму барацьбы за санітарную культуру.

Нядаўна, другога сакавіка, Прэзыдыум ЦВК БССР заслухаў справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэту, па якому разгарнуў шырокія спрэчкі і крытыку.

Значэньне гэтай крытыкі, а асабліва тых рашэньняў, якія былі прыняты, бязумоўна, зьяўляюцца выключна вялікімі, дзеля таго, што ўпяршыню з асаблівай яснасьцю і дакладнасьцю былі падсумаваны ўсе нашыя дасягненьні і недахопы, а на будучыню намечаны цэлы шэраг важнейшых задач.

Да чаго, галоўным чынам, зводзілася ўся крытыка, быўшая на паседжаньні ЦВК Усё зводзілася да таго, што трэба больш крытычна ставіцца да тых лічбаў, якія характарызуюць нашыя дасягненьні, і ўважліва застанавіцца на памылках і цяжкасьцях працы. Таварышы, якія выступалі, правідлова ставілі пытаньне, калі адзначалі, што на прадпрыемствах яшчэ мала ведаюць аб Чырвоным Крыжы, яшчэ не разумеюць яго задач,

а тыя гурткі, якія ў масавай колькасьці разгарнуліся па ўсёй Рэспубліцы, у якасных адносінах яшчэ далёка не здавальняюць запатрабаваньням працоўных. Аб якасьці працы, аб праверцы намечаных дырэктыў і аб ступені іх выкананьня,—вось аб чым трэба думаць у сучасны момант і што зьяўляецца найбольш ударнай задачай.

Але ў той-жа час усе прысутныя на паседжаньні адзначылі вялікую заслугу Чырвонага Крыжу, які здолеў урэшце рэзка парваць са старымі замашкамі прывязанасьці да камэрцыі, рашуча ўзяўся за аздараўленьне беларускай вёскі і напісаў на сваім штандары лёзунг аб культурнай рэвалюцыі.

Прысутныя зазначылі, што шэраг арганізацый мала ўдзяляе ўвагі Чырвонаму Крыжу, што аб ім часта забываюць, і калі гавораць аб Асоавіяхіме, дык толькі яму прыпісваюць ролю ваенізатара нашага тылу і зусім забываюць, што падрыхтоўкай на выпадак вайны санітарнага тылу павінен займацца Чырвоны Крыж. Шмат хто яшчэ ня зусім усьвядоміў вялікую ролю Чырвонага Крыжу,—адзінай у сваім родзе арганізацыі, якой у час вайны прыдзецца быць на першым месцы. Ня трэба забывацца, што большая частка арганізацый падчас вайны прымушана будзе схавацца ў падпольле і з імі ня будуць лічыцца ваюючыя стораны. Чырвоны Крыж, як арганізацыя прызнаная ў міжнародным маштабе, бязумоўна апыніцца ў іншым становішчы. Але і гэтую ролю ня трэба пераацэньваць, бо мы ведаем, што вайна ў будучым будзе клясавай і што ў ёй магчыма сатруцца фармальныя ўмовы, якія ў сучасны момант гэтак урачыста прыймаюцца на міжнародных кангрэсах Чырвонага Крыжу. Тым ня менш ня трэба забывацца, што ў новым статуце Жэнеўскага Чырвонага Крыжу і Лігі Чырвоных Крыжоў тэрмін „грамадзянскай вайны“ ўжываецца на адным месцы і ў адным разуменьні, як і звычайнай вайны. А гэта значыць, што ў час грамадзянскай вайны прызнаны Чырвоны Крыж павінен несьці тыя-ж функцыі, што і ў вайне звычайнага тылу.

Пастанова Прэзыдыума ЦВК БССР паставіла перад Беларускім Чырвоным Крыжам пяць асноўных задач: 1) упарта праводзіць сваю генэральную лінію па прадзьвіжэньні культурнай рэвалюцыі ў глухія куткі нашай вёскі; 2) ставіць на першае месца пытаньні санітарнае абароны і праз гурткі першай дапамогі і санітарныя дружыны яшчэ цясьней і грунтоўней зьвязвацца з працоўнымі масамі і энэргічна праводзіць санітарную падрыхтоўку тылу. Пастройка санітарнага самалёту прызнана, як адзін з спосабаў лепшага скарыстоўваньня самадзейнасьці працоўных у справе санітарнай абароны Рэспублікі; 3) заняцца сацыяльным складам нашай чырвона-крыжнай арганізацыі. Добра яго праглядзець і ў далейшым рабіць націск на ўцягваньне ў нашы шэрагі работніц і асабліва сялянак-батрачак і серадднячак. Пры гэтым было падкрэсьлена, што ў першую чаргу нашы гурткі і ячэйкі трэба арганізоўваць на

сацыялістычным сэктары сел. гаспадаркі—у калгасах, камунах і саўгасах; 4) узмацніць матар'яльнае становішча Школы мэдсясьцёр і абавязкова дабіцца таго, каб у студэнтак школы было адпаведнае памяшканьне як для заняткаў, так і для навучаньня. Урэшце, 5) прэзыдыум падкрэсьліў важнае значэньне працы аддзелу замежнай дапамогі ЦК па высьвятленьню матар'яльных прэтэнзій нашых грамадзян за мяжой.

Вось асноўнае, што сказаў вярхоўны орган Савецкае ўлады. Цяпер чарга за намі,—працаўнікамі Чырвонага Крыжу, яшчэ мацней, энэргічней узяцца за практычнае ажыцьцяўленьне намечаных задач і з падвойнай энэргіяй стаць у радох будаўнікоў новага здаровага быту і піанэраў сацыялістычнага ўкладу ўсяго нашага жыцьця.

**М. Барсукоў.**

# Скапчэньне барацьбы паміж Міжнародным Камітэтам і Лігай Чырвоных Крыжоў

У адным з мінулых нумароў нашага „Бюлетэня" (№ 7—9 за 1927 г., стар. 11—15) мы пісалі аб тым, дзе шукаць міжнародны цэнтр Чырвонага Крыжу. Для Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу гэтае пытаньне зьяўляецца ня толькі тэарытычным, але і практычным. Дзеля правільнай арыентыроўкі ў сваёй дзейнасьці загранiцай, мы мусім ведаць,—дзе-ж у канцы канцоў знаходзіцца міжнародны цэнтр чырвонакрыжнай справы,—у Міжнародным Камітэце ў Жэнэве, ці ў Лізе Чырвоных Крыжоў у Парыжы?

Свой артыкул на гэтую тэму мы ў сваім часе канчалі заўвагай, што паміж абедзьвюма памянёнымі інстытуцыямі існуе заплутаная і працяглая спрэчка за верхавенства і што канфлікт, гэтак кажучы, „у барацьбе за ўладу" пакуль што ня вырашаны.

Сёньня можна ўжо сказаць, што гэтая працяглая барацьба і дыскусія—скончылася. Скончылася спрэчка, якая цягнулася бяз малага 10 гадоў,—з моманту ўтварэньня Лігі Таварыстваў Чырвонага Крыжу і над якой сівамудрыя чырвона-крыжныя дыплёматы (дый ня толькі яны, але і стаячыя за імі буржуазныя ўрады)—паламалі ня мала пер'яў і сапсавалі ня мала чарнілаў.

Ці дасягнута што-небудзь станоўчае ў выніку ўсёй гэтай дзесяцігадовай гісторыі?

Адкажам на гэтае запытаньне шляхам аналізу таго становішча, якое сёньня стварылася.

Пасьля даўжэннай фармальнай цяганіны і безьлічных паседжаньняў—адкрытых і патаемных,—абедзьве спрэчныя стараны—Ліга Чырвоных Крыжоў і Міжнароды Камітэт—пад-

пісалі ў Гаазе ў кастрычніку 1928 году (12—27) тры дакуманты: 1) Статут Міжнароднага Чырвонага Крыжу, выпрацаваны XIII Міжнароднай канфэрэнцыяй Чырвоных Крыжоў, 2) Статут Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу і 3) Статут Лігі Таварыстваў Чырвонага Крыжу.

З першага погляду, кожны прачытаўшы назвы гэтых трох дакумантаў, не адразу, як кажуць, уцяміць сэнс таго, што яны павінны азначаць. Мы ўсе здаўна ўжо прызвычаіліся не рабіць розьніцы паміж назовамі — „Міжнародны Чырвоны Крыж" і „Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжу". Абедзьве гэтыя назвы зычэлі для нас, як сынонімы,—і звычайна для кароткасьці другая назва замяняла першую. Цяпер гэткага зьмяшэньня дапушчаць нельга,—цяпер, маўляў, паміж імі існуе істотная розьніца. Паслухаем жа аўтараў Гаагскае канфэрэнцыі, каб зразумець створанае становішча.

**1) Міжнародны Чырвоны Крыж.** Згодна § 1 яго статуту, МЧК складаецца з нацыянальных чырвонакрыжных таварystваў (якіх ёсьць звыш 50), Міжнароднага Камітэту і Лігі Т-ваў Чырвонага Крыжу. Вышэйшай інстанцыяй МЧК зьяўляецца „Міжнародная Канфэрэнцыя", якая складаецца з *дэлегацый* усіх нацыянальных таварystваў, дэлегатаў дзяржаў, якія падпісалі Жэнэўскую канвэнцыю 1864 г. з дапаўненьнямі, а таксама дэлегатаў Міжнароднага Камітэту і Лігі. Больш рэальнага акрэсьленьня „Міжн. Чырвонага Крыжу" няма, так што па сутнасьці гэта толькі назва, шыльд, які азначае абстрагіраванае паняцьце магчымасьці міжнароднага аб'яднаньня ўсіх Чырвоных Крыжоў сьвету, а не рэальную інстытуцыю. Рэальным выражэньнем гэтага паняцьця зьяўляецца „Канфэрэнцыя Міжнароднага Чырвонага Крыжу".

Галоўнае заданьне Міжнароднае Канфэрэнцыі—„забясьпечаньне адзінства чыннасьці Нацыянальных Таварystваў, Міжнароднага Камітэту і Лігі". Рашэньні яе маюць „рашаючае значэньне" (§ 2)—але яна „ня мае права зьмяняць статуты Міжнароднага Камітэту і Лігі", — апошнія, як самастойныя інстанцыі, ад Міжнароднае Канфэрэнцыі—незалежны. Канфэрэнцыя склікаецца адзін раз у 4 гады, але можа склікацца і кожныя 2 гады (§ 3), калі гэтага будуць вымагаць абставіны.

Перад скліканьнем Канфэрэнцыі павінна быць склікана „Рада Дэлегатаў" і „Рада Кіраўнікоў".

*Рада Дэлегатаў* — гэта зьезд прадстаўнікоў паасобных Нацыянальных Таварystваў Чырвонага Крыжу, разам з прадстаўнікамі Міжн. Камітэту і прадстаўнікамі Лігі. Задачы гэтае Рады—чыста падрыхтоўчыя: абгаварыць парадак прац Канфэрэнцыі, акрэсьліць склад яе Прэзыдыума, узгодніць па магчымасьці супярэчныя пытаньні і г. д. Апрача таго „Рада Дэлегатаў" мае права вырашаць тыя пытаньні, якія ёй былі пераданы або самой Канфэрэнцыяй, або так зв. „Сталай Камісіяй" гэтае Канфэрэнцыі, аб якой слова будзе ніжэй.

Што датыча *Рады Кіраўнікоў,* якая адначасова зьяўляецца выканаўчым органам Лігі,—дык функцыя яе, апрача беспасрэднага кіраваньня справамі Лігі,—таксама „абгаварваць і ў выпадку патрэбы прыймаць рашэньні па пытаньнях, якія будуць ёй пераданы Сталай Камісіяй, або Міжнароднай Канфэрэнцыяй“ (§ IV).

§ 7 статуту Міжнароднае Канфэрэнцыі імкнецца акрэсьліць сутнасьць Міжнароднага *Камітэту* Чырвонага Крыжу. Сэнс гэтага акрэсьленьня той, што „міжнародны камітэт застаецца незалежнай арганізацыяй, якая існуе на аснове свайго статуту ў складзе сяброў—грамадзян Швайцарыі. Ён застаецца *нэйтральным пасрэднікам* паміж усімі Чырвонымі Крыжамі, *асабліва на выпадак вайны.* У мірны час ён працягвае сваю працу пераважна па зьмяншэньні ўсялякіх няшчасьцяў і бедаў, якія зьявіліся ў выніку вайны. Апрача таго, Міжн. Камітэт зьяўляецца сувязьзю паміж усімі Чырвонымі Крыжамі па падрыхтоўцы санітарнае маемасьці на выпадак вайны, санпэрсаналю і інш. Між іншым, усялякія скаргі на парушэньне міжнародных канвэнцый аб абыходжаньні з раненымі і хворымі воінамі і правіламі вайны,—падлягаюць выключнай кампэтэнцыі Міжн. Камітэту, як спэцыфічна нэйтральнага органу.

Функцыі *Лігі* Чырвоных Крыжоў акрэсьлены ў § 8 Статуту Канфэрэнцыі. З гэтага параграфу відаць, што пераважнай задачай Лігі зьяўляецца *праца ў мірны час,*—дапамога і ўзаемная салідарнасьць уваходзячых у Лігу Таварыстваў у выпадку стыхійных закалотаў, міжнародных няшчасных здарэньняў і г. д.

Урэшце, у § 10 Статуту Канфэрэнцыі гаворыцца аб яе „*Сталай Камісіі*“. Гэтая Камісія складаецца з 5 членаў—прызначаных самой Канфэрэнцыяй, 2-х прадстаўнікоў Міжн. Камітэту і 2-х прадстаўнікоў Лігі. Месца побыту і працы „Сталае Камісіі“—Жэнэва, г. зн. тамсама, дзе і Міжнароднага Камітэту. Камісія мае сваім абавязкам падгатаўляць (таксама, як і абедзьве памянёныя вышэй „Рады“) павестку паседжаньняў Канфэрэнцыі, парадак яе прац, узгадняе розныя пытаньні і інш. паміж сэсіямі самае Канфэрэнцыі; апрача таго, яна вырашае (не аканчальна, а толькі да скліку Канфэрэнцыі) розныя разыходжаньні паміж Міжн. Камітэтам і Лігай.

2. **Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжу.** Статут Міжнар. Камітэту складаецца з 11 параграфаў і зьяўляецца модыфікацыяй (згодна вымаганьням сучаснасьці, а галоўнае, згодна вымаганьням яго канкурэнта—Лігі) таго палажэньня, якое існавала аб ім да імпэрыялістычнае вайны. Галоўная сутнасьць яго тая, што Міжн. Камітэт ёсьць „асацыяцыя (або корпорацыя), якая дзейнічае на аснове арт. 60 і далейшых Швайцарскага Грам. Кодэксу“. Мэты Камітэту—быць пасрэдным органам паміж Цэнтральнымі Камітэтамі розных чырвона-крыжных аб'яднаньняў і падтрымліваць паміж імі асноўныя прынцыпы чырвона-крыжнай дзейнасьці—палітычнай, эканамічнай і рэлігійнай бесстароннасьці, незалежнасьці Чырвоных

Крыжоў і роўнапраўнасьці іх; каардынацыя іх працы ў дапамозе раненым і хворым пад час вайны і стыхійных бедаў; арганізацыя дапамогі ваенна-палонным і інш.

**3. Ліга Таварыстваў Чырвонага Крыжу.** Статут яе складаецца з 9 параграфаў, прычым мэты і задачы яе зазначаны (таксама, як канструкцыя) больш падрабязна і больш дэкляратыўна-ўрачыста. Згодна § 1 — „Ліга праводзіць у сваёй дзейнасьці разумную і ясную праграму мірнага часу, захоўвае лепшыя традыцыі Міжнароднага Чырвонага Крыжу, павялічвае добрыя вынікі яго дзейнасьці". Параграф 2 гаворыць аб тым, што Ліга ня мае „ні ўрадовага, ні этнічнага (народнага), ні палітычнага, ні рэлігійнага характару" і ў сваёй чыннасьці імкнецца да таго, каб „папераджаць хваробы і палягчаць цярпеньні людзкасьці, падвышаць дабрабыт яго, дапамагаць пры нацыянальных і міжнародных бедах" і г. д.

Першае, што кідаецца ў вочы пры падрабязным азнаямленьні з усімі гэтымі статутамі і палажэньнямі, гэта тое, што яны пабудаваны штучна і ў выніку якогась надзвычайна складанага кампрамісу. Відаць, што прад аўтарамі ўсіх гэтых дакумантаў ляжала як-бы нейкая „квадратура" кругу — заданьне—„узгодніць неўзгадняемае". Будаўнікі ўсіх гэтых інстанцый і надстроек хацелі зрабіць так, каб існавалі аднача-сова дзьве аднолькавыя чырвона-крыжныя інстытуцыі міжнароднага характару і каб яны існавалі на правох поўнай роўнасьці, каб ніхто не падумаў, што адна з іх у чым-небудзь уступіла другой. Задача, безварункова, вельмі трудная,—і няма чаго дзівіцца, што вырашэньне яе вышла гэткім запутаным.

І так,—цяпер галоўным міжнародным аб'яднаньнем Чырвоных Крыжоў зьяўляецца „Міжнародная Канфэрэнцыя" і яе выканаўчы орган—„Сталая Камісія". Канфэрэнцыя можа склікацца дзе-хочучы, у любой краіне,—а „Сталая Камісія" працуе ў Жэнэве. У Жэнэве-ж працуе і Міжнародны Камітэт, які з усёй гэтай барацьбы вышаў, груба кажучы, вельмі пашчыпаным,—бо ў яго пад бокам, можа здарыцца, нават на аднэй вуліцы з ім, зьявілася па сутнасьці ідэнтычная і пры гэтым вышэйшая арганізацыя ў выглядзе „Сталай Камісіі". Праўда, пілюля Міжнароднаму Камітэту пасалоджана,—ён мае ў гэтай Камісіі той самы лік сяброў, як і Ліга,—ён мае, апрача таго, акрэсьленыя правы пад час вайны, „ён захоўвае сваю самастойнасьць" і г. д.—але па сутнасьці справы ён ужо не манаполіст на чырвона-крыжным полі,—больш таго,—ён ужо не галоўная, не рашаючая ўстанова.

Так скончылася існаваньне старога Міжнароднага Камітэту Чырвонага Крыжу. Пражыў ён ня мала часу,—больш як поўстагодзьдзя,—з 1863 г. па 1929 год. Таксама, як узьнікненьне яго шэсьдзесят шэсьць гадоў таму назад было вынікам буйнага разьвіцьця капіталізму ў Эўропе,—таксама і сёньня, зьмена яго, а нават фактычная сьмерць,—зьяўляецца вынікам

новага разьмяшчэньня, новай конфігурацыі галоўнейшых сіл сучаснага капіталізму. Гэтая конфігурацыя тлумачыцца перш за ўсё „прыходам“ на эўрапэйскі контынэнт магутнейшага амэрыканскага капіталу, пашырэньнем амэрыканскага фінансавага і палітычнага імпэрыялізму, які фактычна „ставіць на калені“ старую „патрыархальную“ Заходнюю Эўропу.

Дзякуючы новай сытуацыі, стары Міжнародны Камітэт абярнуўся па сутнасьці ў „юрыдычную інстанцыю“ пры „Сталай Камісіі“. Што-ж датыча яго „выключных правоў“ па абслугоўваньні Чырвоных Крыжоў пад час вайны, дык можна думаць, што гэтая „выключнасьць“ доўга не пратрывае. У кожным разе яна падпадзе жорсткаму іспыту ў першы-жа момант вайсковай завірухі. Можна быць пэўным, што ласьне ў гэты момант Ліга Чырвоных Крыжоў, абапіраючыся на свае вялізарныя матар'яльныя магчымасьці, спрабуе зрабіць новы нажым на Міжнародны Камітэт і заняць дамінуючае становішча і ў гэтай галіне.

Міжнародная Канфэрэнцыя, што зьявілася ў выніку кампрамісу, да пэўнай меры зьвязвае Лігу ў падобнай спробе. Перамога Лігі аказалася пакуль што не аканчальнай,—яна прымушана была пайсьці тут на ўступкі. Гэта быў першы аргумант, дзякуючы якому Выканаўчы Камітэт нашых савецкіх Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў падпісаў новы праэкт міжнароднага чырвона-крыжнага цэнтру. Другі і галоўны аргумант быў у тым, што дзякуючы новай конвэнцыі ліквідуецца ранейшая швайцарская гегемонія ў чырвона-крыжнай справе—гегемонія, якая выражалася ў тым, што ў Міжнародны Камітэт уваходзілі толькі „нэйтральныя“ грамадзяне „нэйтральнае“ Швайцарыі і што ў склад яго не ўваходзіла ніводнае іншае чырвона-крыжнае Таварыства. Міжнародная Канфэрэнцыя і яе „Сталая Камісія“ пабудаваны на падвалінах, у якіх знаходзіць сабе адбітак фэдэратыўны прынцып. Праўда, прынцып гэты таксама вельмі далёкі ад сапраўднае фэдэральнасьці і арганізацыя „Сталай Камісіі“ вельмі далёка ад сапраўднае роўнасьці Чырвоных Крыжоў,— але як часовая формула ён значна лепшы за ранейшую выключнасьць.

Ласьне як за пераходную, але лепшую за ранейшую форму,—савецкая чырвона-крыжная дэлегацыя на XIII канфэрэнцыі ў Гаазе і падала свой голас. Дзякуючы гэтаму, усе савецкія Чырвоныя Крыжы і Паўмесяцы, у тым ліку і Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжу, зьяўляюцца,—у постаці Выканаўчага Камітэту,—поўнапраўнымі членамі міжнароднай чырвона-крыжнай арганізацыі ў яе новай форме.

Аднак, падкрэсьліваем,—гэтая стадыя нашага прызнаньня пераходная і часовая. Усе савецкія Таварыствы павінны і будуць надалей дабівацца міжнароднага прызнаньня свайго, як самастойных чырвона-крыжных адзінак.

**Аляксандр Цьвікевіч.**

# Дзейнасьць Чырвонага Крыжу ў разрэзе акруговых арганізацый

За апошні час чырвона-крыжная праца значна ажывілася. Прычына гэтаму—пэрыяд перавыбарных кампаній ячэек і раённых камітэтаў. Ажывілася пачуцьцё адказнасьці за працу ў выбарных кіруючых асоб, у зьвязку з надыходзячымі раённымі канфэрэнцыямі Чырвонага Крыжу.

І ў даны пэрыяд вельмі чотка кідаюцца ў вочы як адмоўныя моманты працы, таксама і шэраг яскравых дадатных момантаў з практыкі месц, якія ў звычайны час менш прыкметны.

Бягучы пэрыяд, пачынаючы з лістападаўскага пленуму ЦК, вельмі складаны, як цяжкасьцю, так і рознастайнасьцю ўзятых на сябе добраахвотна задач.

У асноўным гэтыя задачы складаюцца з перавыбараў ячэек і Раённых Камітэтаў, са збору сродкаў на санітарны самалёт, рэарганізацыі санітарных дружын і арганізацыі новых, „Тыдня Чырвонага Крыжу“ і г. д. Пад пунктам погляду пералічаных задач і павінна праводзіцца работа Акруговых Камітэтаў.

*Менскі* Акруговы Камітэт праводзіць вялікую работу ў галіне абсьледваньня ячэек Чырвонага Крыжу як у горадзе, таксама і на вёсцы, прычым шмат удзяляе ўвагі кіраўніцтву перавыбарамі па пэрыфэрыі, шляхам частай пасылкі работнікаў Камітэту на месцы. Трэба адзначыць ініцыятыву Акруговага К-ту ў выданьні „Памяткі чырвонаармейцу пераменьніку аб першай дапамозе“.

У *Віцебскай* акрузе назіраецца значны рост арганізацыі Чырвонага Крыжу: на 1/X—28 г. было сяброў Т-ва 7.355 чал., а на 1/I—29 г.—8.561 чал. За апошнія месяцы тэмп росту ідзе таксама інтэнсыўна. У галіне санітарна-аздараўляючай работы, праведзена праца па будаўніцтву студняў, якіх (разам з будуючыміся) ёсьць 15. Новым мерапрыемствам на Віцебшчыне зьяўляецца тое, што ў аднэй з вёсак, на сродкі Чырвонага Крыжу, набываецца малацілка для калектыўнага карыстаньня сябрамі Таварыства. У глухой мясцовасьці Віцебскай акругі сродкамі чырвона-крыжнай арганізацыі адчыняецца мэдычны пункт.

*Мазырская* акруга прыметна ажывіла сваю дзейнасьць па ўсіх частках чырвона-крыжнай працы, асабліва ў галіне аховы мацярынства і маладзенства: побач з утрыманьнем двох дзіцячых консультацый, у гэтую зіму адчынена на сродкі раённага К-ту Дзіцячая Кансультацыя ў пагранічным раёне. Раённы Камітэт прыцягнуў да арганізацыі кансультацыі сродкі ад самааблажэньня да двох тысяч руб.

З матар'ялаў акруг (пратаколы Прэзыдыуму Акруговых К-таў, справаздачы і інш.) відаць, што па ўсіх акругах назіраецца рост арганізацый Чырвонага Крыжу, рост Гурткоў

Першае Дапамогі, імкненьне атрымаць санітарныя веды праз Гурткі і Санітарныя дружыны. Адчуваецца, што гурткі сябе зарэкамэндавалі, як вельмі жыцьцёвая канкрэтная форма работы нізавой ячэйкі.

У сучасны момант можна канстатаваць, што Чырвоны Крыж пралажыў сабе шырокі шлях да савецкай грамадзкасьці. Акруговыя арганізацыі прымалі ўдзел у шэрагу палітычных кампаній, як „Тыдзень абароны“, абгляд казарм, туб. трохдзёньнік і інш. Упяршыню ў гэтым годзе санітарныя дружыны прымалі актыўны ўдзел у манэўрах Чырвонай Арміі і ў газавай абароне пры паветрана-хэмічным нападзе.

Бюджэтнае пытаньне, асабліва ў частцы знахаджэньня новых прыбыткаў, займае ў рабоце ўсёй чырвона-крыжнай пэрыфэрыі вялікае месца; праведзена поўная дэцэнтралізацыя мясцовых бюджэтаў.

Пленумы акруговых камітэтаў бюджэтнаму пытаньню аддавалі таксама сур‘ёзную ўвагу, у выніку чаго лічбы лістападаўскага пленуму ЦК былі павялічаны месцамі. З матар‘ялаў пленумаў Акруговых К-таў і з асабістага азнаямленьня ўдзельнікаў ЦК з пленумамі ў Гомелі, Бабруйску, Віцебску і інш., відаць шырокае ўцягненьне ў справу гарадзкога актыву ячэек, жывое кіраўніцтва месцамі, шляхам правядзеньня абсьледваньня гарадзкіх і вясковых ячэек, заслухоўваньня іх справаздач на Прэзыдыумах Акруговых К-таў, і вялікую цягу ў Таварыства рабочых і сялян, асабліва іх жаночай часткі.

Арганізаваныя намі тысячы рабочых і сялян цягнуцца цяпер да грамадзкасьці. Неабходна выяўленьне максымальнай ініцыятывы, каб даць выхад гэтай энэргіі і стварыць здаровае, сыстэматычнае кіраўніцтва, але, канешне, не габінэтным шляхам.

Побач з ажыўленьнем нашай дзейнасьці, мы маем вялікую колькасьць і недахопаў арганізацыйнага характару. Пастаноўка работы гурткоў патрабуе, каб яе якасьць была значна палепшана; неабходна лепш арганізацыйна пабудаваць нашы сан. дружыны, палепшыць пастаноўку тэарэтычнага навучаньня дружыньніц, лепш выкарыстоўваць дружыны ў розных няшчасных выпадках і інш. Дружыны ў гэтым годзе, бязумоўна, павінны быць поўнасьцю ўкамплектаваны санітарнай маёмасьцю. Мы мала яшчэ зрабілі ў такой важнай кампаніі, як збор сродкаў на санітарны самалёт, гэтак неабходнага ў умовах Беларусі. Мы павінны будзем напружыць максімум сіл, каб выканаць гэтую задачу. У красавіку м-цы ўся грамадзкасьць Чырвонага Крыжу будзе трымаць экзамен у форме „Тыдню Чырвонага Крыжу“. Задача „Тыдню Чырвонага Крыжу“, — барацьба за аздараўленьне ўмоў жыцьця і працы рабочых і сялян, — намі павінна быць выканана. Жыцьцё з кожным днём прад‘яўляе да нас усё новыя і новыя вымаганьні. Мы ня можам адставаць ад жыцьця ні на поў-крока, інакш мы страцім грамадзкае аблічча Чырвонага Крыжу.

Пастанова Прэзыдыумам ЦВК БССР, прынятая 23 лютага гэтага году па справаздачнаму дакладу ЦК Чырвонага Крыжу, ставіць з аднаго боку, перад намі новыя моманты, з другога боку — абавязвае шэраг урадовых і грамадзкіх арганізацый усямерна садзейнічаць Чырвонаму Крыжу. Працаўнікі Чырвонага Крыжу павінны ўсебакова выкарыстаць рашэньне Прэзыдыуму ЦВК БССР.

**М. Кандрашук.**

# Міхайлаў дзень у в. Лошніца ў 1928 г.

*(Барысаўшчына)*

Некалькі сот гадоў стаіць вёска Лошніца на Барысаўшчыне і ўсе гэтыя гады сьвяткавала яна „Міхайлаў дзень". Сьвяткавала „па-славянску" — шырока, шумна і п'яна. Пачыналі 21 (8) лістапада і канчалі 10—11-га сьнежня. За гэтыя дні выпівалі мора гарэлкі (а ў апошнія часы самагону), аб'ядаліся да болі ў жываце. Штогод адпраўлялі некалькі сялян, як казалі пад час сьвят, „да Абраама на піва", штогод некалькі сялян ішлі за гэта ў Сібір. Больш шчасьлівыя хадзілі некалькі тыдняў з падвязанымі рукамі, з забінтаванымі галавамі, па некалькі месяцаў адрашчывалі бароды. Жудасная лаянка, пачатая на „прыяцельскіх" міхайлаўскіх гутарках, шырокім рэхам адбівалася ад хаты да хаты амаль не да вясны. А царква і поп са „сьвятым Міхайлай" усё гэта бачылі, усё гэта благаслаўлялі і зараблялі на гэтым сялянскія пятакі і грыўні, збожжа і жыўнасьць, тканіны і ручнікі і іншыя „афяры" — ад мёду да яйца і лыка ўключна. „Всяк дар совершенен был!"

Але вось у 1928 г. савецкая грамадзкасьць, у першую чаргу Лошніцкі Нардом парашылі паўстаць супроць „Міхайлы", выбіць з яго рук яго заржавелы меч, якім ён калісь, па лягендзе, забараніў людзям уваход у „рай" за іх імкненьне да сьвету, да ведаў, да розуму,—паўстаць супроць таго „Міхайлы", які зрабіўся на былой „Сьвятой Русі" сымбалем гарадавога і стражніка. У гэтым культурным паходзе прынялі ўдзел усе: ад цэнтральнага ўрада быў т. Хацкевіч і Пам. Пракурора Рэспублікі т. Зысьман, ад Акруговага—шэраг таварышоў, працуючых у галіне агранаміі, асьветы, каапэрацыі і г. д., шэраг дактароў-спэцыялістых, на чале з прафэсарам Лявонавым. Усе гэтыя таварышы рабілі інструктыўны агляд працы на месцы, давалі адказы на запытаньні, разьбіралі скаргі і просьбы, давалі нарады, дактары вялі мэдычны прыём хворых.

Але-ж справы—справамі, патрэбен і адпачынак. І вось дзеля гэтага прыехаў Бел. Дзярж. Перасоўны тэатр Галубка, які за два дні паставіў два спэктаклі і музычна-вакальна-хорэаграфічны

канцэрт. Увечары, пасьля спэктакляў было кіно („Грышка Сьвінапас“), агульныя карагоды моладзі, агульныя сьпевы і гульні. Да агульнага сьвяткаваньня было прыстасавана і сьвяткаваньне дзесяцігодзьдзя Жаночага Аддзелу і адчыненьне Ткацкай Арцелі*).

Няма чаго і казаць, што ўсё гэтае зварухнула вёску з яе 400 дварамі так, што ў цэркву пашлі адны старэнькія бабулькі і дзядзькі (ды і то ня ўсе),—для ўсіх грамадзян знайшліся больш цікавыя рэчы.

Увечары, ідучы па вёсцы, якая ў мінулым стагнала ад п'яных, брыдкіх песень, ад брыдкай, паскуднай лаянкі, па вёсцы, на вуліцах якой валяліся, як сьвіньні, людзі, у якой, як правіла, былі бойкі і душагубствы, ідучы па гэтай самай вёсцы ў гэты „Міхайлаў вечар“, я ня ўбачыў аніводнага п'янага, не пачуў аніводнага брыдкага слова. Затое я чуў адозвы аб розных выступленьнях, спрэчкі па розных пытаньнях вясковага і дзяржаўнага жыцьця, уражаньні аб тэатры Галубка і г. д.

Лічу абавязковым дадаць, што перад сьвятам, Райвыканком, ведаючы мінулае, прыслаў у Лошніцу нарад міліцыі,—але-ж у дзень сьвята, да поўдню высьвятлілася, што яна не патрэбна і яе адправілі ў Барысаў.

Так, таварышы, атрымала нашая савецкая ўлада перамогу на фронце барацьбы за новы, здаровы, культурны быт працоўных масаў.

Д-р **Сабалеўскі.**

г. Нова-Барысаў, Сух. Дыспанс.




*) Ткацкая Арцель у в. Лошніцы была заложана па ініцыятыве ЦК Бел. Чырв. Крыжу. Аб гэтым гл. заметку ў № 8 „Бюлетэня“.

# НА МЯСЦОХ

## Студэнты Мэдфаку БДУ супрацоўнічаюць з Чырвоным Крыжам

З 1/XI—28 г. Бюро ячэйкі Чырвонага Крыжу Мэдфаку БДУ ўзяло шэфства над вескамі: „Бардзілаўка I“ і „Бардзілаўка II“, а 31/XII — 28 г. і над вёскай „Астравамі“. Для кіраваньня гэтай працай быў выдзелены сябра ячэйкі Мэдфаку.

У вёсцы „Бардзілаўка II“ ужо існавала ячэйка Чырвонага Крыжу ў ліку 25 сяброў. Але-ж працы там ніякай ня было, відаць, дзякуючы таму, што Райком мала цікавіўся гэтай справай.

Трэба сказаць, што сялянства хутка зразумела сутнасьць пралетарскага Чырвонага Крыжу і пайшло ў яго шэрагі, як відаць з наступных лічбаў:

1) Вёска Бардзілаўка II мела 25 сяброў, а за тры месяцы існаваньня ячэйкі лік сяброў павялічыўся да 60 асоб.

2) У вёсцы Бардзілаўцы I арганізавана ячэйка, якая аб'яднае 42 сябры.

3) У вёсцы Астравы арганізавана ячэйка, якая мае 37 сяброў Чырвонага Крыжу.

У кожнай вёсцы арганізавана па аднаму Гуртку Першае Дапамогі.

Для кіраваньня гурткамі ячэйкаю Мэдфаку вылучаны кіраўнікі са студэнцтва Мэдфаку.

Трэба адзначыць, што ня ўсе кіраўнікі, якія былі вылучаны, выяжджалі на працу; толькі сябры Бюро працавалі шмат, хоць умовы гэтай працы былі надта кепскія: таварышом прыходзілася пяць кілёмэтраў хадзіць пехатою, ня гледзячы на дрэннае надвор'е, на маразы і заставацца на вёсцы больш, як суткі.

Пралетарскі студэнт імкнецца несьці культуру туды, дзе яна далёка адстала ад тых запатрабаваньняў, якія ставіць перад працоўнымі Савецкая ўлада. Наша вёска адкрыла вочы, яна прагне навукі і санітарнае асьветы.

Цяпер крыху аб выніках працы гурткоў. Да „Дню жанчын“ 8-га сакавіка 1929 г. былі прыстасованы выпускі 2-х Гурткоў

Першае Дапамогі ў вёсках „Бардзілаўка“ I і II. У Бардзілаўцы II было 23 сябры Гуртку, скончыла яго і атрымала пасьведчаньні 13 асоб, якія былі больш адукаваны, а ў Бардзілаўцы I скончыла 17 асоб.

Праграма, якую праходзяць гурткі на вёсцы, па маёй думцы, недастаткова. Я лічу патрэбным у гэтую праграму ўставіць па 3 лекцыі спэцыяльна па догляду за дзецьмі, бо мы бачым, што вёска наша яшчэ далёка ня ўся ахоплена ясьлямі на летні сэзон. Вось з гэтай прычыны і трэба ўставіць 3 лекцыі па Ахматмладу.

Чырвоны Крыж і студэнцтва Мэдфаку! Вёска вас чакае! Нясеце ёй свае веды, бо там іх яшчэ вялікі недахоп.

Студэнт I курсу Мэдфаку **В. Астрэйка.**

# У в. Капаткевічы (Мазыршчына)

Справаздача Капаткевіцкага Райкому Чырвонага Крыжу на Пленуме Мазырскага Акркамітэту паказала, якія мы маем дасягненьні ў працы на вёсцы. Раённая арганізацыя аб'яднае 9 ячэек з агульным лікам 374 сяброў: мужчын—257, жанчын—117. З іх уступілі за апошні год у арганізацыю 203 асобы. У тым ліку рабочых—77, сялян—173, служачых і іншых—124. Сяброў КПБ і КСМ—44, беспартыйных—330. Па нацыянальнасьці: беларусоў—266, яўрэяў—81, іншых—27. Райком працуе плянава, жыцьцёва кіруе ячэйкамі і на справе правервыў працу ўсіх ячэек.

Па лініі вайскова-санітарнай—Райком арганізаваў 5 Гурткоў Першай Дапамогі, з якіх выпушчана 84 асобы. У сучасны момант арганізоўваецца 5 новых гурткоў. Які лік асоб будзе наведваць гурткі, пакуль яшчэ судзіць нельга, бо арганізацыйная праца яшчэ ня скончана.

Апрача гурткоў вядзецца праца па арганізацыі сан. дружын, у якую ў сучасны момант ужо ўступіла і зацьверджана 33 асобы. Апрача працы гурткоў, праводзілася чытка лекцый па сан. асьвеце. Усяго прачытана 10 лекцый. На сродкі чырвонакрыжнай арганізацыі ў Капаткевічах утрымліваецца дзіцячая кансультацыя, сярэдняе наведваньне якой—15 дзяцей у прыймовы дзень.

У Капаткевічах пабудавана на сродкі Чырвонага Крыжу лазьня, на якую патрачана 1700 руб. Лазьня закончана і перадаецца РВК. Пры правядзеньні „Тыдню Абароны“ і „Сухотнага Трохдзеньніка“ Чырвоны Крыж прымаў актыўны ўдзел у гэтай працы.

За год сяброўскіх і ўступных узносаў атрымана 90 р. 50 к. і лічыцца запазычанасьці 43 р. 93 к. За год арганізацыя мела

розных грашовых прыбыткаў 1979 р. 78 к. Аказваючы першую дапамогу насельніцтву, Райком выдаў па ячэйках 4 аптэчкі. Пленум даў указаньні Райкому на далейшае, паказаўшы, што Чырвона-крыжная арганізацыя, закончыўшы працу па пабудове лазьні, зараз-жа павінна прыняць удзел у палепшаньні дабрабыту м. Капаткевічы.

Побач з заслуханьнем працы Капаткевіцкага Райкому, Акркамітэт зрабіў агляд *Слабодзкай* ячэйкі Чырвонага Крыжу, якая арганізавана ў 1927 г. Ячэйка налічвае 86 сяброў, выпусьціла 1 Гурток Першай Дапамогі ў ліку 10 асоб пры Саўгасе. Цяпер арганізаваны два Гурткі Першай Дапамогі, у якія



**Актывістыя Чырвонага Крыжу на Мазыршчыне.**

1. т. Жукоўскі (Слабодзкая ячэйка) 2. т. Крывадубскі Старшыня Капаткевіцкага райкому 3. Шурнік Старшыня Слабодзкай ячэйкі.

запісалася 40 асоб. Актыў Чырвонага Крыжу ў Слабадзе раздабыў маленькую хатку (былое памяшканьне РВК) і пабудаваў даволі ўдалую хоць і прымітыўную лазьню, якая ў першы тры дні працы прапусьціла каля 100 сялян. Прыстасаваньн[е] яе каштавала 30 руб.

Нашая ячэйка, сумесна з ячэйкай Асоавіахіму, для разьвіцьця вайскова-санітарнае працы проэктуе пад час летні[х] манэўраў пабудову „газоубежища“. Дрэнна абстаіць справ[а] палітасьветная, якая патрабуе пры чытцы лекцыяў сялян[ам] чароўнага ліхтару, а гэткага няма.

У пляне працы ячэйкі ёсьць мерапрыемствы па падняцьц[ю] санітарнага дабрабыту вёскі: пабудова ўзорнай хаты па новам[у] тыпу, разьбіўка палісаднікаў, рассадка дрэў па вуліцы і ін[ш].

Як відаць з паказанага, Мазырская Чырвона-крыжная арг[а]нізацыя мае грунт для сваёй працы ў вёсцы.

**Фішман.**

# Што мне даў Гурток Першае Дапамогі

Пасьля ліквідацыі маёй няпісьменнасьці, я паступіла ў Гурток Першае Дапамогі, які арганізаваўся пры Жанаддзеле ў Гомелі. Наведвала я заняткі акуратна і, ня гледзячы на маю старасьць, скончыла гурток з посьпехам і вытрымала экзамен. Праз некаторы час па маёй просьбе Акр. К-т Чырвонага Крыжу накіраваў мяне на практычную працу ў Гомельскую сялянскую амбуляторыю для замацаваньня атрыманых ведаў на практыцы.



**Эм. Піладзе.**
Актывістка Чырв. Крыжу
(Гомэль)

Прапрацаваўшы 2 месяцы, я атрымала практычныя навыкі па дагляду за хворымі, што прынясло карысьць ня толькі маёй сям'і, але і ўсёй рабочай клясе.

Я заклікаю ўсіх старых і маладых жанчын уступаць у Гурткі Першае Дапамогі. Тут нічога цяжкага няма, толькі каб было жаданьне. Кожная з вас здолее прынесьці карысьць сабе і працоўнаму насельніцтву.

Таксама заклікаю ўсіх уступіць у Т-ва Чырвонага Крыжу і памагчы яму ў яго працы.

**Эмілія Піладзе сябра КП(б)Б.**

# На пасажырскай станцыі М. Б. Б.

*(Менск)*

Пры клюбе імя Леніна пасажырскай станцыі М. Б. Б. Менск існуе ячэйка Чырвонага Крыжу, якая праводзіць наступную працу: адчыніла пры клюбе чырвона-крыжны-санасьветны куток, які мае адпаведную бібліатэчку, якая складаецца з чырвона-крыжнай і сан. асьветнай літаратуры; устанавіла дзяжурства дружыньніц і актывістых ячэйкі для правядзеньня тлумачальнай працы сярод наведчыкаў кутку, а таксама для аказаньня першай дапамогі ў няшчасных выпадках; тут таксама ёсьць аптэчка, атрыманая ячэйкай.

Вялікая праца ячэйкай праводзіцца сярод жанчын па ўцягненьню іх у Чырвоны Крыж. Калі раней жонкі рабочых былі яшчэ не арганізаваны і не праводзілі ніякай грамадзкай працы, дык цяпер яны ўжо ўцягнуты ў гэтую працу і праводзяць яе супольна з самымі работніцамі і рабочымі.

Чырвона-крыжная арганізацыя ўскалыхнула іх і паказала ім іхні грамадзкі абавязак; яны зразумелі, што на іх ляжыць

вялікі абавязак—у выпадку вайны, ці ў выпадку якога-небудзь стыхійнага няшчасьця аказваць першую дапамогу. У сучасны момант яны гэта ўжо ведаюць, што давялі на справе ў час выхадаў і манэўраў, а таксама ўдзелам у Усебеларускай спартакіядзе, дзе яны ўдзельнічалі ў якасьці санітарак; ня гледзячы на тое, што некаторыя з іх пакінулі ў хаце малых дзяцей, яны ішлі ў паходзе, што сьведчыць аб іх сьвядомасьці і дысцыплінаванасьці.

Ня гледзячы на некаторыя недахопы, якія бязумоўна маюцца ў працы ячэйкі, усё-ж пры агульным змаганьні мы выканаем задачы, ускладзеныя на нас Т-вам Чырвонага Крыжу і Савецкай уладай.

**В. Іванова.**

# Бедната за Чырвоны Крыж

*(у вёсцы Пацкі)*

У нас ёсьць недалёка вёска Пацкі, Байдацкага с/сав. Яна цёмная, але ня бедная, хоць і ёсьць у ёй частка і беднага сялянства. На жаль, частка беднякоў сярод багатых як-бы замірае і ня можа быць актыўным і арганізаваным сялянствам. Вось калі я, селянін, сябра сельска-гасп. арцелі „Профінтэрн", Байдацкага с/с., уступіў у сябры Чырвонага Крыжу ў кастрычніку 1928 г. і атрымаў сяброўскі білет, я шмат убачыў, чаго ў гэтым білеце ёсьць і спазнаў сапраўдную карысьць Таварыства. А гэтак сама і ў „бюлетэні", у якім яшчэ больш ёсьць. Пасьля гэтага я парашыў канчаткова ўзяцца за арганізацыйную працу ячэйкі Чырвонага Крыжу і за вярбоўку ў сябры Чырвонага Крыжу. Я арганізаваў ячэйку перш у сваёй арцелі, у вельмі прыхільных умовах: абралі бюро, рэўкамісію, арганізавалі Гурток Першае Дапамогі і санітарную камісію.

Ва ўсю гэтую працу ўцягнуў я з свайго Машэйкоўскага мэдпункту фэльчара і доктара, і яны таксама ахвотна ўзяліся за дапамогу ў чырвона-крыжнай працы.

Калі арганізавалі ячэйку ў сваёй арцелі, я зьвярнуўся ў Райком Чырвонага Крыжу. Райком мяне ўпаўнаважыў па арганізацыі ячэяк наогул на раёне; гэта было ў сьнежані мес. 1928 г. Я яшчэ лепш узяўся за гэтую працу і апошні час мной арганізавана 4 наступных самастойных ячэяк: у вёсцы Лядніўі, Байдацкага с/с.—лік сяброў 38 чал.; у камуне „Чырвоны Сьцяг", Макаўвіцкага с/с.—28 чал. і ў вёсцы Пацкі, пра якую я даў загаловак, якая вельмі цёмная і някультурная і запоўнена кулацкімі элемэнтамі.

Калі я пашоў на арганізацыю ў тую вёску і пачаў рабіць даклад аб значэньні і карысьці Чырвонага Крыжу, дык беднага вельмі і вельмі падняла свае вушы і засталася задаволена

арганізацыяй ячэйкі Чырв. Крыжу, яны спадзяюцца, што праз арганізацыю ячэйкі можна будзе дармова пабудаваць студню, лазьню і яські, асабліва таму, што якасьць вады паганая, усё сялянства гэтае вёскі п'ець ваду з лужы.

Кулацкі элемэнт вельмі перашкаджаў маёй арганізацыі, кажучы: „так жылі мы дагэтуль бяз розных ячэяк, будзем і цяпер жыць". Тагды, калі я запрапанаваў: „Вы, як не сябры Чырвонага Крыжу, дык не перашкаджайце нам з сябрамі праводзіць сход, і мы вас можам папрасіць аб выхадзе з памяшканьня", дык двох кулакоў, Мілеўскі і Ляпчэўскі і яшчэ трэці, фаміліі ня ведаю, хацелі накінуцца на мяне і пабіць, але дзякуючы беднаце не дапусьцілі, папрасілі іх аб выхадзе з хаты і пастанавілі арганізаваць ячэйку Чырвонага Крыжу.

Гэта прайшло ўсё добра і засталася бедната задаволенай. Калі я адходзіў, дык прасілі прабачэньня і каб я наведваў іхнюю ячэйку і дапамагаў у іхняй працы. А пагэтаму я з свайго боку буду прасіць Ц. К. Чырвонага Крыжу аб высылцы плякатаў Санітарыі і якой-небудзь літаратуры для ячэйкі вёскі Пацкі, дзе мы зацікавілі беднату працаю.

**Язэп Купцэвіч.**

# Талачынскі Раённы Камітэт Чырвонага Крыжу

*(з 19-XI-1927 па 19-XI-1928 г.)*

Наш раённы Камітэт Чырвонага Крыжу выбраны на агульным сходзе членаў яшчэ ў лістападзе 1927 г.

Першы год працу праводзіць было вельмі цяжка, бо было мала вопыту.

Сёлета быў у нас Акруговы Сакратар т. Ланін, які абсьледаваў нашую працу, інструктаваў, на пашыраным пленуме зрабіў даклад, пасьля чаго быў прыняты вельмі дзелавы плян далейшай працы і інш.

За год працы райкомам было завербавана 247 чал., арганізована 6 ячэяк; да ячэяк прымацованы мэдпрацаўнікі для кіраўніцтва і арганізацыі гурткоў першае дапамогі.

У м. Полаччыне існуе 2 гурткі, якія акуратна наведваюць заняткі.

Да недахопаў трэба аднесьці тое, што ня ўсе члены райкому, а таксама і мэдпрацаўнікі прымалі ўдзел у працы Т-ва; няма сувязі з ячэйкамі Асоавіяхіму і іншымі мясцовымі арганізацыямі; у бліжайшай будучыне гэтую хібу трэба выправіць. Тагды Т-ва Чырвонага Крыжу бязумоўна стане на вёсцы барацьбітом і змагаром з вясковаю цемраю, забабонамі і шаптунамі, якіх яшчэ на вёсцы ня мала.

**Лугаўцоў.**

# У глушы Магілеўшчыны

*(вёска Буда-Баравая)*

Шчыра дзякуем Цэнтральны Камітэт за бібліотэчку. Бібліотэчка вельмі каштоўная і добрая па зьместу, хоць крыху трудная для разуменьня маіх вучняў.

Ячэйка Т-ва Чырвонага Крыжу ўжо арганізавана і мае пакуль што 21 сяброў. Вядома, што гэтым лікам мы абмяжоўвацца ня будзем і ў штодзённай сваёй працы будзем агітаваць за павялічэньне. Ячэйку-то арганізавалі, але-ж пакуль што працы яшчэ сярод яе ніякай не праводзілася, дзеля таго што ў нас няма належнага інструктаваньня. На маё запытаньне: „Якую працу павінна праводзіць ячэйка"—мне ў Раённым Т-ве адказалі: „Самая галоўная праца—гэта ў вярбоўцы сяброў, а другая—культ-асьветная". Вось і ўсё тлумачэньне.

Мая-ж думка, што ячэйка не павінна ставіць адну толькі мэту ў павялічэньні колькасьці сяброў, але-ж у якасьці іх. Каб сялянства наглядна бачыла карысьць ад ячэйкі і яе працы, вось тагды-б яно і ахвотней уступала-б у сябры.

Каб былі ў нас сродкі, дык можна было-б што-небудзь такое зрабіць; але-ж іх няма, а тыя сродкі, якія паступілі ад сяброўскіх узносаў, мы, здаецца, ня маем права скарыстоўваць—яны павінны аддавацца ў Рай-Камітэт, а адтуль дапамогі не чакай. Я маю думку разгарнуць наступную працу сярод самой ячэйкі: так як сталага гуртку першай дапамогі нельга адчыніць, дзякуючы таму, што далёкая адлегласьць ад мэдпункту (20 клм), то праводзіць гутаркі па санітарыі. Але-ж і для гэтага няма адпаведнай літаратуры і ў раёне таксама няма.

Калі магчыма атрымаць з ЦК Т-ва, то, калі ласка, паклапаціцеся. Акрамя гэтага, просьба даць падрабязнае тлумачэньне па працы ў гэтай галіне, бо мне пажадана паставіць працу ў сваёй ячэйцы на належную вышыню, каб яна ня была толькі на паперы, але і на справе. Вось дзеля гэтага я й прашу напісаць падрабязна.

Яшчэ адно запытаньне—якім чынам можна палепшыць мэдыцынскую дапамогу насельніцтву? У нас на 50 тысяч насельніцтва адна больніца і да першага мэдпункту адлегласьць 20 клм. Сяляне нашага сельсавету вельмі гаруюць бяз мэддапамогі і дзеля гэтага шырока разьвіта шаптунства.

Пры правядзеньні самаабкладаньня ў гэтым годзе, насельніцтва нашае вёскі пастанавіла згадзіцца на 15 % для адчыненьня мэдпункту. Ёсьць памяшканьне ў быўшым маёнтку, у якім цяпер утварылася нац. арцель. Галоўная перашкода гэта тая, што сабраных сродкаў вельмі мала для гэтае мэты. Ці не магла-б у гэтым выпадку дапамагчы дзяржава?

Калі магчыма, то якім чынам і куды зьвярнуцца з хадайніцтвам?

Дапамогі з раёну нельга чакаць, бо ён дэфіцытны.

Ці нельга, каб ЦК Т-ва даў прапанову Раймэдпэрсаналу хоць раз ці два на месяцы выяжджаць у далёкія ячэйкі ў абавязковым парадку для чыткі лекцый, бо на нашыя просьбы яны адмаўляюцца перагружанасьцю.

Настаўніца ў в. „Буда-Баровая“ **Галена Цьвікевіч.**

# Барысаўская вайскова-санітарная дружына за працай

Вясна. Апошнія дні красавіка. Яшчэ вельмі рана і цемната пануе над Барысавам. Адна за другой зьбіраюцца дружыньніцы на Вайсковы пляц. Сабралося 56 чал., а з імі 3 доктары і 2 фэльчары.

Каманда і 16 сясьцёр з 2-ма дактарамі аддзяляюцца і гінуць у цемры, каб далучыцца да вайсковай часткі, якая ідзе на „пазыцыі“, каб адтуль, у якасьці „ворага“, напасьці на Барысаў.

Праходзіць яшчэ дзьве гадзіны, усё яшчэ пануе цемра. Зноў каманда і з пляцу адыходзіць асобны батальён АСО, падзелены на роты. Кожная рота мае 10 чырвоных сясьцёр. Адносіны да іх чырвонаармейцаў і асоавіяхімаўцаў—тавараскія, але трошкі насьмешныя: „бабы ідуць ваяваць! усе роўна ня вытрываюць!“

Пачынае разьвядніваццa. Гулка стукаюць ураньні боты, грукаціць артылерыя. Ня гледзячы на рань, ля дамоў стаіць насельніцтва, якое вельмі цікавіцца і манэўрамі і тым, што сярод байцоў шмат сясьцёр. Настрой батальёну бадзёры і вясёлы, „Эй, дзядзька“, зьвяртаецца чырвонаармеец да аднаго сівабародага магутнага дзеда,—„хадзімо з намі ваяваць“. Той ласкава ўхмыляецца ў бараду. „Ідзеце, ідзеце“, кажа, „мы далі вам найлепшых сыноў і дачок і лічым, што вы і бяз нас справіцеся“.

Адходзім ад Барысава на чатыры вярсты і становімся „на пазыцыях“. Пачынаецца страляніна; то тут, то там да сясьцёр падыходзяць чырвонаармейцы і асоавіяхімаўцы (асабліва камсастаў): „я ранены, сястрычка, перавяжэце“. Хутка і паважна—нібы то маецца сапраўднае раненьне—робіцца адпаведная перавязка. Некаторыя з „раненых“ вытрымліваюць ролю да канца, іншыя-ж на палове перавязкі дзякуюць і задаволена кажуць, што ім хацелася толькі праканацца ў ведах дружыньніц.

Але-ж ня толькі ўся праца сясьцёр гэткая: вось падводзяць байца, які бледны і ледзь перастаўляе ногі, з ім здарыўся сонечны ўдар. Хворага кладуць у цень дрэва і робяць, што

патрэбна. Падыходзяць з намулянымі нагамі, з больлю галавы. Усім ім робіцца патрэбная дапамога.

А тым часам стрэлы грукацяць усё больш і больш. Варожыя групкі накатваюцца ўсё бліжэй і бліжэй, намнажаюцца і вось ужо лаваю кідаюцца „ў штыкі".

„Бой" скончаны. Усе зьбіраюцца ў адно месца. Начальнік манэўраў т. СКУГАРАЎ робіць разбор „боя" і дае ацэнку ўсім удзельнікам. Аб працы сясьцёр кажа: „мы, трэба прызнацца, лічылі, што сёстры ня выканаюць той ролі, якую ім даручылі: мы думалі, што яны аднясуцца да справы, як да вясёлай гульні, і пачнецца не работа, а флірт. Цяпер мы павінны адзначыць, што працавалі нашыя Чырвоныя сёстры вельмі добра, а трымалі сябе яшчэ лепш".

* * *

1-ае Мая. Сонца пячэ так, што здаецца—усё растопіцца. На вайсковым пляцу народу процьма. Безьліч арганізацый і вялізны натоўп. Калёна сясьцёр Чырвонага Крыжу стаіць побач з Чырвонаштандарным палком; пасьля сумеснага двухдзённага паходу і ўдзельнічаньня ў „баю", яна прынята ў вайсковую сям'ю, як маючая на гэта права. Разам з усімі вайсковымі часткамі яна праходзіць маршам перад прымаючым парад Старшынёю Гарсавету т. КАНДАКОВЫМ, які кідае ёй: „Чырвоным Пралятарскім Сёстрам—ура".

* * *

Верасень. Хмарыцца неба. Атмасфэра ў горадзе напружная: навісла якая-сь пагроза, небясьпека, адчуваецца спалох. Усе чакаюць нападу „ворага". Праўда, „вораг" гэты—нашыя-ж чырвонармейскія аэропляны, але яны павінны пускаць атрутныя газы, будуць кідаць бомбы, зноў будзе артылерыйскі грук і інш. А ўсё гэта мімаволі будзіць цяжкія ўспаміны з нядаўнага мінулага.

Але Дружына Чырвонага Крыжу спакойна. Яна разьвярнула шэраг пунктаў і чакае. Вось пачынаюцца трывожныя гудкі, набліжаюцца „варожыя" аэрапляны; то тут, то там грукацяць разрывы бомб з „атрутнымі газамі"; на пункты ідуць самі і транспартуюцца на насілках „раненыя" і „газаатручаныя".

На пунктах ідзе напружная праца па ўчыненьню адпаведнай дапамогі.

Вынікі манэўраў: камандаваньне і асабліва сан. частка манэўраў сьведчыць, што Барысаўская Санітарная Дружына прарабіла вялікую і каштоўную працу. Ня гледзячы на недахопы, яна „мела свой твар".

А савецкая грамадзкасьць на старонках прэсы адзначыла: „Барысаў голымі рукамі ня возьмеш".

29/XI-28 г. Барысаў, Сухот. Дыспанс. Д-р **А. Сабалеўскі.**

# На Полаччыне

*(Расонскі раён)*

У летку 1927 г. у наш сельсавет прыехаў вэндыспансэр Чырв. Крыжу.

Дактары дыспансэру рабілі абсьледваньне здароўя жыхароў, ходзячы па вёсках; прымалі хворых у амбуляторыі і праводзілі санітарныя гутаркі на сялянскіх сходах.

У выніку гэтай працы, насельніцтва зацікавілася працай Чырвонага Крыжу, і 7 жніўня 1927 г. мы арганізавалі ячэйку. У той самы дзень наладзілі пры ячэйцы Гурток Першае Дапамогі, якім кіравалі дактары. Запісалася 15 сяброў, але, дзякуючы чароўнаму ліхтару, сабраліся ня толькі сябры гуртка, але і сялянства, чалавек 40.

У восень дактары ўехалі і пакінулі кіраўніцтва мне, як больш ведаючаму ў гэтай галіне. Спадчына мне засталася добрая. Дактары зацікавілі насельніцтва працай ячэйкі і Гуртку, але яны аказаліся слабымі мэтадыстымі: у выніку 9 гутарак, праведзеных імі, гурткоўцы мала што ўсвоілі; прыходзілася пачынаць з пачатку, але для гурткоўцаў ніякай літаратуры ня было.

Наша ячэйка зьвязалася непасрэдна з Акругкомам Чырвонага Крыжу, бо райупаўнаважаныя ад нас далёка і ніякай сувязі з імі немагчыма было наладзіць. Акругком дапамагаў кнігамі і плякатамі і дасылаў кіраўнічы матар'ял,

У зімку 1927 г. мы атрымалі з Акругкому Чырв. Крыжу брашуркі аб Першай Дапамозе, тагды праца пайшла лепш. Арганізавалі другі Гурток Першае Дапамогі, якім узялася кіраваць настаўніца. Вясной зрабіць выпуск ня здолелі. Летам праца спынілася з прычыны ад'езду кіраўнікоў.

У восені працу ўзнавілі і з посьпехом скончылі. Праўда, адзін гурток распаўся, але ўзамен яго мы арганізавалі санітарны гурток, які будзе падрыхтоўчай ступеньню да гуртка Першае Дапамогі і разьлічаны на 20 заняткаў. Такія гурткі будзем арганізоўваць пры школах, каб настаўнікі імі кіравалі. А ў Гуртку Першае Дапамогі будзем прымаць толькі скончыўшых сан. гурткі. Гэтак, на наш погляд, будуць лепшыя вынікі, бо за адну зіму сялянскі маладняк ня надта добра праходзіць праграму. Такім чынам, будзем праходзіць у першую зіму анатомію і гігіену, а ў другую зіму курс першай дапамогі.

Кепска, што далёка ад нас доктарскія пункты. Калі сустракаецца што-небудзь спрэчнае ці няяснае, дык мы запісваем і потым пры здарэньні пытаемся ў доктара або фэльчара. Сталай сувязі няма. Гэтак у нас стаіць справа падрыхтоўкі.

Цяпер трохі аб масавай працы. Сходы ячэйкі праводзяцца ня менш як 1 раз у 2—3 мес. На сходах абгаварваем пытаньні аховы здароўя і аздараўленьня нашага быту. У выніку—*забаранілі на сходах курэньне, зьнішчаем цалаваньне на вячорках.*

Апрача сходаў Чырвонага Крыжу, актыў робіць па чарзе даклады на санітарныя тэмы на пасяджэньнях Культсансэкцыі і на сялянскіх сходах.

Ячэйка паступова расьце. Цяпер яна налічвае 84 сяброў, з іх 20 жанчын. Па сацыяльнаму складу: сялян 92%, служачых 8% і па партыйнасьці сяброў і кандыдатаў КПБ і ЛКСМ—12%, беспартыйных 88%.

Ёсьць магчымасьць падзяліць ячэйку на дзьве. Але гэтае пытаньне не падымалася, бо на ўскраінах менш актыву і выдзеленая ячэйка будзе слаба працаваць. Большасьць за тое, каб сходы праводзіць або па чарзе па розных вёсках, або рабіць групавыя сходы.

У заканчэньні скажу аб працы сярод дзяцей. Пры двух школах маюцца зьвеньні Чырвонага Крыжу; яны наглядаюць за санітарным становішчам школ, праводзяць сан. чыткі ў школе і на вёсцы і вярбуюць дарослых у Чырвоны Крыж. Цяпер абгаварваем пытаньне аб гарачых сьнеданьнях у школах, і на грунце гэтага ўзьнялі пытаньне аб высяленьні абшарніцы і перадачы панскага дому пад школу. Да гэтага прыхільна аднесьліся С/Савет і РВК.

Праца ячэйкі захапіла шырокія колы насельніцтва як дарослых, так дзяцей. Ячэйка расьце па ліку сяброў наогул і па ліку актыву, расьце таксама і яе аўтарытэт.

**Аздараўленьне вёскі—ёсьць справа сёньнешняга дню, справа культурнай рэвалюцыі. Чырвоны крыж тут можа шмат чаго зрабіць.**

Сябра МК Круцікаўскай ячэйкі Чырвонага Крыжу
**П. Лук'янін.**

## У Гомельскай ячэйцы пры саюзе Камунальнікаў

Восьмага сакавіка—у міжнародны дзень жанчыны, штогод падагульваюцца ўсе дасягненьні з боку жанчын у вызваленьні іх ад сямейнай няволі, якое, вызваленьне, пачалося дзякуючы Кастрычнікавай Рэвалюцыі. У сувязі з гэтым патрэбна сказаць некалькі слоў і аб нашай ячэйцы Чырвонага Крыжу, бо гэта арганізацыя складзена выключна з жанчын.

Наша ячэйка існуе ўжо больш за 2 гады. За гэты пэрыяд некалькі разоў мяняўся склад Бюро ячэйкі і таму неяк нельга было наладзіць работу; ня было і ніякага вучоту ўсіх сяброў Чырвонага Крыжу.

Пасьля апошняй справаздачы Бюро на агульным сходзе сяброў аб сваёй дзейнасьці, было абрача новае Бюро ў ліку

7-мі сяброў і 2-х кандыдатаў. На сёнешні дзень ужо ёсьць добрыя вынікі. У цяперашні час ячэйка мае правільны вучот сваіх сяброў і налічвае іх 85 чалавек.

Па соцыяльнаму складу: работніц—27, рабочых—3, служачых—12, утрыманцаў—43. Па партыйнасьці: сяброў і кандыдатаў КПБ—8, сябр. і кандыд. ЛКСМБ—6. У сучасны момант ячэйка выпускае другі Гурток чырвоных сясьцёр першае дапамогі і падрыхтоўвае арганізацыю 3-га Гуртка.

Трэба сказаць, што калі будзе дапамога ў рабоце з боку ўсіх сяброў Бюро, дык магчыма будзе з пэўнасьцю гаварыць аб яшчэ большых дасягненьнях.

**Ханкіна.**

## У Гомельскім т-ве „Саматужнікаў“

За час свайго існаваньня Бюро ячэйкі Чырвонага Крыжу пры Гомельскім т-ве „Саматужнікаў“ прарабіла наступную працу: арганізаваны 2 Гурткі Першае Дапамогі, у якіх займалася 55 чалавек. Заняткі наведваліся акуратна. 51 чалавек скончылі гурткі, дзе яны ліквідавалі сваю санітарную няпісьменнасьць. За апошні пэрыяд была зроблена экскурсыя ў вайсковы шпіталь, зроблена паўторная лекцыя для скончыўшых Гурткі Першае Дапамогі. Зроблена 4 сходы чырвоных сясьцёр, на якіх былі пастаўлены даклады аб Чырвоным Крыжу, з мэтай азнаямленьня іх з задачамі, стаячымі перад Т-вам.

5 чалавек залічаны ў Сан. Дружыну. Пасланы на практычную работу ў лячэбныя ўстановы—3 чал., якія шмат зрабілі за час сваёй працы. Прынялі актыўны ўдзел у 2-м „Тыдню абароны“ краіны, у прыватнасьці ў камсамольскім паходзе, паветрана-хэмічнай трывозе, у кружачным зборы.

За апошні час у працы заўважаецца некаторае паслабленьне. 9/XII—28 г. адбыўся справаздачна-перавыбарчы сход. У спрэчках былі адзначаны як дадатныя, таксама і адмоўныя бакі.

Пастанавілі пашыраць Гурткі Першае Дапамогі з гэткім разьлікам, каб паступова ахапіць і прапусьціць усіх сяброў Т-ва „Саматужнікаў“ і іх жанок; узмацніць сан. аздараўляючую і сан. асьветную работу, шляхам абсьледваньня прадпрыемстваў, правядзеньня лекцый і праверкі правядзеньня ў жыцьцё санітарных навычак, атрыманых у Гуртках Першае Дапамогі. Ліквідаваць запазычанасьць па сяброўскім узносам і ўзмацніць работу па вярбоўцы ў Т-ва Чырвонага Крыжу. У гэты час ячэйка налічвае 60 сяброў Т-ва. Выбрана бюро з 5-ці чалавек з двома кандыдатамі, рэвізыйная камісія—з 3-х членаў. Адбылося першае паседжаньне Бюро Ячэйкі, на якім разьмяркованы абавязкі паміж членамі Бюро.

**Гінзбург і Стукалава.**



Санітарная Дружына Заходніх Чыгунак у паходзе (Гомэль)

## Схамянецеся!

У вучастковым К-це Т-ва Чырвонага Крыжу Заходніх Чыгунак (Гомель) работа ўзімку стаяла бяз руху, як-бы замёрзла. Хоць гэта было і па „духу часу"—на двары стаялі нячуваныя маразы, але не па духу цяперашняй міжнароднай палітыкі.

За 7 месяцаў існаваньня вучастковага К-ту ня была абсьледвана большасьць ячэяк. Агульныя сходы таксама адыйшлі ў краіну успамінаў, ды й пісьмовага інструктажа мы штосьці не заўважаем. А ячэйкі, зразумела, „раўняюцца па начальству".

Ні паседжаньняў бюро ячэяк, ні агульных сходаў, ні якой інш. работы ў ячэйках амаль няма, а Рэвізыйныя Камісіі ня толькі што не падпіхваюць бюро, але і самі сьпяць. Зразумела, што гэтакі стан рэчаў прывядзе нас да страты сяброў і сродкаў Т-ва.

Неабходна ўсім нам раскачацца, каб апраўдаць ускладзеныя на нас задачы.

Каб работа ішла прадукцыйней у ячэйках, каб у любы момант можна было-б зрабіць замену мала актыўнага таварыша другім, больш актыўным, я рэкамандую правесьці „выяўленьне актыву". Пасьля выяўленьня актыву неабходна праводзіць сярод яго культурную работу. Больш лепшым сябрам, якія адзначыліся сваёй работай сярод актыву, неабходна надаваць званьне „акцівістага", выдаючы значкі, граматы і інш. Гэта дасьць безварункова добрыя вынікі.

**П.**

## Як мы пачалі працаваць

Ячэйка Т-ва Чырвонага Крыжу пры Калодзішчанскім с/с, О.-Гарадзецкага раёну арганізавалася даўно—яшчэ 15 кастрычніка 1927 г. Сяброў у нас з пачатку было ўсяго толькі 20 чал. У першы час адносіліся да гэтай арганізацыі якась недаверліва,—усім здавалася, што ў мірны час для Чырвонага Крыжу няма ніякай працы, што яна пачынаецца толькі на вайне.

Вось чаму было вельмі цяжка пачынаць рэальную працу сярод сяброў.

Па майму пачыну 11/XI—28 г. быў склікан 1-шы Агульны Сход Сяброў Чырвонага Крыжу, на якім прысутнічаў прадстаўнік Акруговага Камітэту т. Ціхантоўскі; ён ясна абрысаваў перад сходам, якія мэты і задачы стаяць прад Беларускім Т-вам Чырвонага Крыжу як у час вайны, так і ў мірныя часы; на гэтым сходзе былі абрана Бюро Ячэйкі і Рэўкамісія, якіх да гэтага часу ня было.

Цяпер наша Ячэйка падобна чалавеку, які ідзець на гару; за вельмі кароткі тэрмін яна вырасла і якасна і колькасна. Мы ўжо маем ў Калодзішчанскай Ячэйцы 110 сяброў і арганізавалі ячэйку ў вёсцы „Каралёў-Стан“, з лікам сяброў 75 чал. 16 сьнежня ў гэтай ячэйцы было абрана Праўленьне і Рэўкамісія; у вёсцы „Азярышча“ ёсьць сяброў 50 чал. У недалёкай будучыне рост ячэяк павялічыцца, бо пакуль што гэтую працу заглушае справаздачная і перавыбарчая кампанія с/с і цяпер уся ўвага завострана на гэтай працы. Сродкі ячэйкі, акрамя ўступных і сяброўскіх адлічэньняў, павялічыліся, дзякуючы пастаноўцы агіткі, зьмешчанай у „Бюлетэню“ № 4—7 „Справа Будзе“. Пры Калодзішчанскай Ячэйцы арганізованы Гурток Першай Дапамогі.

**Лявонцява.**

## Выпуск Гуртка першай дапамогі пры клюбе М. Б. Б. ж. д.

15/XII—1928 г. на ўрачыстым паседжаньні жанчын, у сувязі з X-годзьдзем існаваньня жаночых аддзелаў, у клюбе Ільліча М. Б. Б. ж. д. адбыўся выпуск Гуртка Першай Дапамогі. Скончыла гурток 11 жанчын.

Перад выдачай пасьведчаньняў, сябра Менскага Акр. К-ту Чырвонага Крыжу зрабіў даклад аб гісторыі Чырвонага Крыжу і ў прыватнасьці Беларускага Чырвонага Крыжу, а таксама аб той працы, якую праводзіць Чырвоны Крыж як у мірны, так і ў ваенны час.

Кіраўнік гуртка Д-р Шушкевіч зрабіў даклад аб працы Гуртка, ён-жа выдаў пасьведчаньні скончыўшым Гурток.

З прывітаньнем ад скончыўшых Гурток выступіла т. Скварчэўская, якая таксама падкрэсьліла тую працу, якую праводзіў Гурток Першай Дапамогі.

Як было відаць па настрою прысутных, жанчыны вельмі зацікаўлены працай Чырвонага Крыжу; у хуткім часе будзе існаваць чарговы гурток Першай Дапамогі. 8-га сакавіка выпушчаны чарговы Гурток у 17 чал. Цяпер працуе чацьвёрты па ліку Гурток. Уся гэтая праца праводзіцца тым-жа Д-рам Шушкевічам, за што нашыя чугуначнікі яму вельмі ўдзячны.

Сябра Менскага Акр. Камітэту **Майсюкевіч**.



Гурток Першай Дапамогі Асіпаўскага Раённага Камітэту.

## Усебеларускі смотр чырвоных казармаў

*(Менск)*

З 1-га студзеня бяг./г. пачалася кампанія па правядзеньню смотру Чырвоных казармаў, а Менскі Акруговы Камітэт пачаў гэтую працу на многа раней, чым атрымаў паказаньні з боку ЦК Т-ва.

Зьвернута больш увагі на працу сярод чырвонаармейцаў і тэрытарыяльных частак (апошнія пэрыядычна зьбіраюцца для

правядзеньня аднадзённых збораў). Гэты момант і быў Акр. К-там адзначаны, бо ў гэты час можна добра праводзіць чырвона-крыжную прапаганду, якая выражаецца ў наступным: перш-на-перш неабходна абставіць пункты збораў пашыранымі чырвона-крыжнымі куткамі матар'яламі па першай дапамозе, неабходна абсталяваць куткі сан. асьветнай літаратуры і інш.

Як вядома, аднадзённы збор бывае вельмі багата нагружаны вайсковай праграмай, і некаторыя таварышы кажуць: „куды тут улезьці Чырвонаму Крыжу?“ Але ў гэтую праграму ўваходзяць і сан. асьветныя тэмы, якія праводзяць мэдпрацаўнікі; з апошнімі ячэйкі Чырвонага Крыжу і могуць на мейсцы дагаварыцца аб уключэньні ў праграму чырвона-крыжных пытаньняў.

Можна правесьці і культ. асьветную працу сярод пераменьнікаў, а па вечарох—тлумачальную працу аб ролі і значэньні Чырвонага Крыжу; можна праводзіць вярбоўку ў сябры Т-ва і інш. Уся вышэйпаказаная праца праводзіцца на тэрыторыі Менскае Акругі ўпяршыню.

Па пытаньні аб удзеле ў „кампаніі па смотру Чырвоных казармаў“, на адным з пасяджэньняў прэзыдыуму К-ту ўхвалена, каб разам з культурным каляктыўным паходам у Чырвоныя казармы аказваць і матар'яльную дапамогу. Выпушчана „Памятка Чырвонага Крыжу Чырвонаармейцу-Пераменьніку аб першай дапамозе“, праэктуецца пусьціць Перасоўны Зуб. Габінэт з зуб. доктарам для абслугоўваньня далёкіх частак Чырвонай Арміі. У некаторых казармах будуць арганізованы чырвона-крыжныя і вайскова-санітарныя куткі; будзе выдана сан. асьветная літаратура. У гэтых кутках мэдпрацаўнікамі будзе праводзіца праца па лініі Чырвонага Крыжу. Для сувязі ў камісію па правядзеньню кампаніі, для штодзённай працы Акр. К-там вылучаны прадстаўнік.

Будзем чакаць ад усёй беларускай чырвона-крыжнай арганізацыі актыўнага ўдзелу ў правядзеньні кампаніі і добрых вынікаў.

**Ф. Ціхантоўскі.**

# Куток Чырвонага Крыжу ў „Цэнтральным Доме Селяніна“

Да 10-годзьдзя Савецкай Беларусі, калі адчыняўся „Цэнтральны Дом Селяніна“, Менскі Акруговы Камітэт Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу адчыніў у ім вялікі „Куток Чырвонага Крыжу“. Пытаньням Чырвонага Крыжу і санітарнай асьветнай прапагандзе адведзены асобны вялікі пакой.

Сяляне, якія прыбываюць у Менск і начуюць у сваім „Доме“, маюць магчымасьць азнаёміцца з характарам працы Т-ва,

12-га студзеня быў праведзены даклад на тэму аб гісторыі і працы Чырвонага Крыжу наогул і аб Беларускім Т-ве асобна. Па дакладу быў шэраг запытаньняў, з якіх відаць, што праца Чырвонага Крыжу яшчэ не ахапіла шырокіх вясковых нізоў. Цікавіліся пытаньнем, як арганізаваць Гурткі Першае Дапамогі, пыталіся наконт літаратуры і інш.

У будучым неабходна будзе арганізаваць у „Цэнтральным Доме Селяніна“ пэрыядычныя дзяжурствы дружыньніц і наогул актыву Чырвонага Крыжу, для вядзеньня тлумачальнай працы сярод прыбываючага сялянства.

**Ф. Ціхантоўскі.**

# У Капыльсім раёне

Буйны рост чырвона-крыжнай працы відавочны, але трэба адзначыць, што гэты рост пераважна ідзе за кошт гарадоў, а на вёсцы праца ня зусім здавальняючая. Раённым Камітэтам аб гэтым ня трэба забывацца.

Другое пытаньне—якім чынам узмацніць чырвона-крыжную працу на раёне?

Раённыя дактары надта завалены неадкладнаю мэдычнаю працай. Зімовы час, у які спадзяваліся зьвярнуць увагу на чырвона-крыжную працу, неспадзявана заняла поўнасьцю эпідэмія грыпу, які амаль ня мінае ніводнай вёскі. Вясной і летам селянін за працай заняты ўвесь час.

Каб дапамагчы раёну, ёсьць адзін выхад—гэта ўцягваць у працу студэнтаў у час зімовых і летніх вакацый.

У час зімовых вакацый у Капыльскім раёне студэнтамі арганізаваны 3 ячэйкі Чырвонага Крыжу, з лікам сяброў больш 100 чалавек, акрамя арганізацыйнай працы праведзена санітарна-асьветная.

Па ўражаньням удзельнікаў працы, нязначная колькасьць ячэяк Чырвон. Крыжу на вёсцы залежыць не ад пасыўнасьці сялянства—апошняе надта цікавіцца справай Чырв. Крыжу—але ад адсутнасьці працаўнікоў у гэтай галіне, ці правільней—ад іх недахвату.

Ня можна абыйсьці маўчаньнем таго шчырага ўдзелу ў арганізацыі ячэяк, які прынялі настаўнікі Восаўскае школы—*Ярмолаў* і Бабаўнянскае—*Каленчыц*. Гэта лішні раз падкрэсьлівае вялікую культурную значнасьць настаўніка на вёсцы.

Цяпер ад Раённага Камітэту Чырвонага Крыжу залежыць, каб арганізаваныя ячэйкі ўзмацняліся і былі працаздольнымі. А ад студэнтаў-мэдыкаў—сяброў Чырвон. Крыжу мы будзем чакаць, каб яны і надалей скарыстоўвалі час вакацый для дапамогі блізкаму ім Таварыству.

**А. Вяржбіцкі.**

# Чырвоны Крыж на гаспадарчым фронце

9-га верасьня м./г. Менскі Акруговы К-т Чырвонага Крыжу, сумесна з Ячэйкай ВСНГ, у клюбе ф-кі „Меншвей“ правёў ўрачысты выпуск 25 чал., скончыўшых Гурток Першае Дапамогі. Гэты аб'яднаны Гурток складаўся выключна з рабочых і работніц фабрык і заводаў гор. Менску і прызначаны ў першую чаргу для санітарнага абслугоўваньня дабраахвотна-пажарных дружын фабрыкаў і заводаў.

Трэба адзначыць здавальняючыя веды слухачоў, іх посьпехі і здольнасьці, што было падкрэсьлена камісіяй, якая была вылучана Акруговым К-там для правядзеньня экзаменаў.

Па сканчэньні праверачнай працы адбылася ўрачыстая



Аб'яднаны Сан.-Гурток Першай Дапамогі пры ВСНГ БССР (Менск).

частка, на якой выступіў з прамовай член прэзыдыума ВСНГ. Ён адзначыў важнасьць гэтага выпуску, як зьвяна ў ланцугу гаспадарчага будаўніцтва і на фронце барацьбы з „Чырвоным Пеўнем“, калі бывае шмат няшчасных выпадкаў, а першая дапамога адсутнічае. Пасьля выступіў прадстаўнік Акруговага К-ту Чырвонага Крыжу, які адзначыў вялізнасьць задач Чырвонага Крыжу па падрыхтоўцы працоўных да санітарнай абароны краіны і наогул пашырэньня ў масах санітарных ведаў.

Усе скончыўшыя былі разьмяркованы па пажарных дружынах, і ім тут-жа пад туш духавога аркестру былі выданы пасьведчаньні аб сканчэньні Гуртка Першае Дапамогі Чырвонага Крыжу і аб прымацаваньні да пажарнай дружыны таго ці іншага прадпрыемства, з адзнакаю ў графе спэцыяльнасьць— *„санітар“*.

Пішучы гэтыя радкі, я хачу адзначыць, што ня ўсюды яшчэ скарыстаны гэты вельмі важны вучастак нашай чырвонакрыжнай працы. З боку ВСНГ ёсьць жаданьне аб дапамозе Чырвонага Крыжу ў гэтым напрамку і яго трэба скарыстаць. Трэба разгарнуць гэтую справу па ўсёй Беларусі, дзе толькі маюцца пажарныя дружыны.

**Ф. Кусьцікаў.**

# ХРОНІКА

## У Цэнтральным Камітэце

◆ На пасяджэньні ЦК ад 2/I-29 г. пастаноўлена давесьці лік сяброў Таварыства ў бягучым годзе да 80.000.

◆ На тым жа пасяджэньні вырашана ў мэтах выяўленьня працаздольнасьці ячэяк і дзеля большага разгортваньня дзейнасьці Т-ва на мясцох правесьці з 15/III па 15/V *„Усебеларускі Конкурс на лепшую ячэйку Чырвонага Крыжу“*. Справаздачныя блянкі для ячэяк ужо надрукаваны ЦК і разасланы па раёнах у ліку 750 экз.

◆ Для разгортваньня працы Чырвонага Крыжу ў Мяхоўскім с/с., Езерышчанскага раёну на Віцебшчыне, ЦК адпусьціў 500 руб. Гэтыя грошы павінны пайсьці на арганізацыю барацьбы з бытавым сіфілісам і трахомай.

◆ Чарговы Пленум ЦК прызначаны на 3 мая г/г. Праграма Пленуму наступная:

1) Справаздача аб працы Прэзыдыуму ЦК за апошні год і пытаньне аб рэарганізацыі структуры Таварыства.

2) Вынікі зімовай працы ЦК.

3) Даклад Магілеўскага Акруговага Камітэту.

4) Проект новага Статуту Т-ва.

◆ Прызнана патрэбным, каб на Пленуме былі прысутнымі ўсе сакратары Акруговых Камітэтаў.

◆ На пасяджэньні ЦК ад 1 сакав. пастаноўлена выдаць масавую брашурку „Памятка чырвонаармейцу-пераменьніку аб першай мэдычнай дапамозе“. Азначаная брашура была вынікам ініцыятывы Менскага Акруговага К-ту і ўжо выдана ў ліку 10.000 экз.

◆ Да кампаніі перавыбараў Чырвонага Крыжу надрукавана і разаслана па акругох 50.000 чырвона-крыжных лёзунгаў.

◆ У ЦК атрымана ад беларускага настаўніцтва з Латвіі падзяка за надасланыя для тамтэйшых беларускіх школ кнігі і школьныя падручнікі (гл. аб гэтым у № 8 „Бюлетэня“).

◆ 23 лютага б/г. адбыўся даклад ЦК Чырвонага Крыжу на пасяджэньні Прэзыдыуму ЦК БССР—аб дзейнасьці Таварыства за ўвесь мінулы час. Пастановы ЦВК зьмешчаны ў гэтым № „Бюлетэня“.

◆ 4 красавіка б/г. у Менску, у клюбе Карла Маркса адбыўся 2-гі Традыцыйны вечар Чырвонага Крыжу, які арганізоўваў ЦК на карысьць дзяцей рабочых і сялян Заходняй Беларусі.

◆ ЦК прызнаў неабходным адпусьціць Магілеўскаму Акругов. К-ту 3.000 руб. на набыцьцё аўта-грузавіка для абслугоўваньня на дагаворных пачатках псыха-лячэбніцы г. Магілева.

◆ У ЦК атрыманы весткі, што ў Рызе (Латвія) пры 2-ой беларускай пачатковай школе арганізаваўся „Гурток Чырвонага Крыжу моладзі“.

◆ Пад час надыходзячага Пленуму Выдавецкі Аддзел ЦК рыхтуе наладзіць „Выстаўку плякатаў Чырвонага Крыжу“. Для гэтай выстаўкі ўжо атрыманы матар'ялы ад Амэрыканскага Чырвонага Крыжу.

◆ Выдавецкі Аддзел ЦК выдаў у друку: 1) брашуру „Першая Дапамога“ на беларускай мове і 2) Санасьветны плякат „Старая і новая вёска“.

## Весткі з-за мяжы

◆ У ЦК атрыманы першы цыркуляр за подпісам Міжнароднага Чырвонага Крыжу і Лігі Чырвоных Крыжоў аб выніках XIII Конфэрэнцыі ў Гааге, на якой створана новая форма арганізацыі міжнароднага чырвона-крыжнага цэнтру ў выглядзе Конфэрэнцыі і Сталае Камісіі Чырвонага Крыжу. Разгляд гэтае справы гл. у артыкуле таварыша А. Цьвікевіча.

◆ У ЦК атрымана паведамленьне аб сьмерці старшыні Міжнароднае Асоцыяцыі Дапамогі Дзецям—праф. *Клімэнта Піркэ*. Праф. Піркэ зьяўляецца выдатнейшым навуковым работнікам у галіне мэдыцыны. Памёр ён у Вене 28 лютага бягучага году.

## У Аддзеле Замежнай Дапамогі

Аддзел Замежнай Дапамогі Цэнтральнага Камітэту нашага Таварыства разьвівае што дзень то большую чыннасьць. За тыя паўтара гады, што мінулі з пачатку яго працы, ім прынята да вядзеньня звыш 1000 розных спраў. Тут мы сустрэнем і прэтэнзыі да амэрыканскага скарбу аб выплаце страховых сум за загінуўшых у Амэрыцы рабочых, выхадцаў з Беларусі, тут вядзецца здабываньне сродкаў за загінуўшых у амэрыканскай арміі вэтэранаў—таксама родам з Беларусі; тут падшукваюцца рознага роду насьледзтвы і спадчыны пасьля сваякоў, што пражывалі ў Паўночных Амэрык. Штатах, тут наводзяцца спраўкі аб адшуканьні адрасоў і месца жыхарства знаёмых, родных і гэтак далей.

Аддзел Замежнай Дапамогі можа цяпер ужо ганарыцца тымі лічбамі матар'яльных прэтэнзый, якія ён дарадна правёў, і тымі адрасамі, якія ён знайшоў і дзякуючы якім жонкі знайшлі сваіх мужаў, дзеці—бацькоў, родныя—сваякоў. З пачатку дзейнасьці Аддзела ім здабыта для грамадзян БССР звыш 200.000 даляраў з Амэрыкі, адшукана звыш 200 асоб.

Лік наведнікаў Аддзелу і лік падаваных прэтэнзый і просьбаў расьце штодзень. Звычайна новых спраў заводзіцца 3—5, але бываюць дні, калі іх налічваецца да 10 і нават больш. Трэба прыняць пад увагу, што гэтакі рост спраў адбываўся дзякуючы абвесткам і паведамленьням у газэтах. Пакуль што яшчэ ня быў пушчаны ў шырокі зварот плякат Аддзелу, які надрукаваны ў ліку 25.000 экз. Калі гэты плякат будзе разасланы,—рост новых спраў будзе яшчэ буйнейшым.

Рассылка плякату ўжо пачалася гэтымі днямі. Кожны сельскі савет у БССР, кожная школа, кожны аграномічны пункт і г. д.—ужо пачынае насычацца паведамленьнем аб карыснай дзейнасьці ЦК Бел. Чырв. Крыжу. Трэба паставіць справу так, каб у нашай краіне ня было ніводнага чалавека, які-б ня ведаў, што праз Чырвоны Крыж ён можа здабыць сабе ўсё тое, што яму належыць з-за мяжы.

Асабліва ў гэтай справе мае значэньне тая пастанова, якую вынес ЦВК БССР па дакладу ЦК Бел. Чырв. Крыжу. Як відаць з гэтае пастановы (яна друкуецца ў гэтым нумары „Бюлетэня")—Беларускі Чырвоны Крыж прызнаны адзінай арганізацыяй у межах нашае Рэспублікі, якая мае права весьці справы па абароне матар'яльных прэтэнзый грамадзян БССР у замежных краінах, з якімі няма нармальных дыплёматычных і консульскіх зносін. Разам з тым ЦВК загадаў усім органам улады на мясцох, каб яны рабілі Беларускаму Чырвонаму Крыжу ў гэтай справе безадкладную дапамогу, грамадзянам, якія маюць грашовыя прэтэнзыі заграніцу—палягчалі выконваньне ўсялякіх фармальнасьцяй (§ 12 пастановы).

Пастанова ЦВК БССР зьяўляецца бяспрэчна важнейшай,—і прынясе вялікую карысьць нашаму працоўнаму грамадзянству. Трэба толькі, каб усе органы на мясцох, у тым ліку і нашыя акруговыя і раённыя арганізацыі, дасканала яе ведалі і правялі ў жыцьцё.

На жаль, у гэтым апошнім напрамку мы ня можам пахваліцца дасягненьнямі. Ці то таму, што Акруговыя Камітэты нашага Таварыства не

зразумелі да сяго часу выключную значнасьць „вэтэранскае справы“, ці то таму, што яны наогул не на вышыні свайго становішча,—але факт той, што з іхняга боку пакуль што відаць мала энэргіі і ініцыятывы ў гэтай справе.

Як агульнае правіла, адпаведныя спраўкі і наведкі з боку Аддзелу Замежнай Дапамогі ЦК на мясцох, асабліва ў акругах, затрымліваюцца, адносіны да запытаньняў і інформацый— не акуратныя, а часам проста нядбайныя, ніякая прапаганда і ўдасканаленьне ў жыцьці не праводзіцца і г. д. Той прыклад, што Аршанскі Камітэт *3 тыдні* не адказваў на тэрміновыя лісты ў пільнай справе замежнай дапамогі, а нават і на тэлеграмы, і той факт, што Бабруйскі Камітэт ня здолеў знайсьці ў сябе пад бокам чалавека, якога шукаў Аддзел і якога ён знайшоў у тым-жа Бабруйску праз Нар. Кам. Унутраных спраў,—усё гэта паказвае, што некаторыя з Акруговых Камітэтаў нашага Таварыства абы як ставяцца да сваіх абавязкаў.

Далей так быць ня можа. Трэба, каб побач з разьвіцьцём справы ў цэнтры, належна была пастаўлена справа і на мясцох. Трэба, каб усе чырвонакрыжныя арганізацыі, усутыч да ячэйкі, зразумелі важнасьць справы матар'яльных прэтэнзій нашых працоўных грамадзян за мяжу і ў сваёй штодзённай працы, сярод іншых абавязкаў, аддавалі ёй належную ўвагу.

Найлепшы шлях тут—самая шырокая інфармацыя аб тым, што і як робіць Чырвоны Крыж. Трэба памятаваць, што належна пастаўленая праца па абслугоўваньні ласьне гэтае галіны ня толькі будзе карыснай для кожнага рабочага і селяніна Савецкае Беларусі паасобку, але што гэтым самым Беларускі Чырвоны Крыж найлепш забясьпечыць сабе той аўторытэт і тую папулярнасьць сярод шырокіх масаў працоўных, на якую ён мае поўнае права разрахоўваць.

**Ал. Цьвікевіч.**

## З лістоў, падасланых у Аддзел Замежнай Дапамогі.

Дарагія таварышы, працаўнікі Чырвонага Крыжу! Я Вам паведамляю, што пісьмо я ваша атрымаў, у каторым быў адрас маіх дзядзькоў і я Вам дзякую, што Вы паслухалі мяне і разыскалі маіх дзядзькоў Васіля і Міхася Белых, і я Вам яшчэ раз дзякую, што Вы разыскалі маіх дзядзькоў.

в. Заўшыцы, Чырвона-Слабадзкога раёну, Старчыцкага с/с., Бабруйскай акругі.

**Міхась Ігнатаў Белы.**

7/III-29 г.

### В БЕЛОРУССКИЙ КРАСНЫЙ КРЕСТ

Уважаемые товарищи! Ваше письмо за № 389 о розыске Гельфайна (Слободского) мы получили, за что Вам очень благодарны. Мы сегодня же согласно Вашего адреса послали письмо Гельфайну и, по получении от него ответа, Вас известим.

С горячей благодарностью

**Г. В. Непомнящий.**

8/III-29 г.

◆ В ответ на Ваш № 350 от 25-го сего марта спешу принести Вам свою благодарность за установленную Вами мне и моим старикам-родителям неописуемую радость тем, что отыскали нашего сына, брата Бернарда (Эле-Бер) Короткина.

**Исаак Яковлевич Короткин.**

Смоленск, Мееровское
Шоссе, дом. № 11/12.

◆ Письмо я ваше получил, за которое чувствительно благодарю, что мне хоть и за долгое время получить удалось извещение о расстроенных империалистической войной родных, которые еще остались в живых и будет кому написать письмо.

С великой благодарностью

**Ив. Иос. Муха.**

— Паведамляю я Вам, што Вашае пісьмо атрымала, у якім Вы паведамілі, што адшукалі майго брата ў Амэрыцы. Вялікі Вам дзякуй за гэта. Я зусім ня думала, што Вы адшукаеце яго.

**Тэафілія Бука.**

28/II-29 г.

◆ Уважаемые товарищи! 27/III с. г. получил от вас письмо с адресом моих родных, живущих за-границей. Очень Вам благодарен за розыск их. 20 лет я их не видел и не имел от них никаких сведений, и, наконец, благодаря Вашим трудам и стараниям, я теперь могу им написать и узнать об их существовании. Я не знаю, как выразить Вам свою благодарность. Прошу Вас, напишите мне подробно этот адрес, который я получил, их всех один и тот же, если же они живут врозь. Напишите чем они занимаются, хотя бы приблизительно, или мне прямо писать к ним самим.

Я переехал с семьей в город Смоленск, по большой Казанской ул. в д. Жукова, № 6 и прошу Вас теперь писать мне по этому адресу.

Жду от Вас ответа. Еще раз я и моя семья Вас благодарят за Ваше внимание и труды.

Всего хорошего.

**Николай Григорьевич Каварский.**

## Тэлеграма ад Украінскага Чырвонага Крыжу з павіншаваньнем 10-годзьдзя БССР

№ 11205

Цэнтральны Камітэт Украінскага Чырвонага Крыжу дасылае гарачае прывітаньне Беларускаму Т-ву Чырвонага Крыжу з прычыны 10-годзьдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мінулае 10-годзьдзе беларускія рабочыя і сяляне, сумесна з усімі рабочымі і сялянамі Сацыялістычнага Саюзу, выявілі столькі гэроізму на франтох як баявых, так і культурных, што здолелі ня толькі залячыць жудасныя раны, нанесеныя рознага роду імпэрыялістымі і белагвардзейцамі, але і вывесьці ўціснаных царызмам беларускіх рабочых і сялян на шырокую дарогу будаваньня сацыялізму.

У той самы час, як заграніцай нашы браты—украінцы і беларусы—яшчэ стогнуць у лапах імпэрыялістых, вашае мірнае будаўніцтва на культурным фронце яўна парушаецца усімі капіталістымі-драпежнікамі, якія добра разумеюць, што росквіт нашай сацыялістычнай культуры нясе пагібель загніваючаму капіталізму. Мы, дабраахвотныя грамадзкія арганізацыі,—савецкія Чырвоныя Крыжы,—прыймаючы свой магчымы удзел у агульным сацыялістычным будаўніцтве, павінны ўважліва прыслухоўвацца да гэтае небясьпекі і разам з нашай культурнай працай прыкладаць усе высілкі ў дапамозе нашаму Савецкаму Саюзу па ўзмацненьню яго абароназдольнасьці.

Няхай жыве савецкая беларуская грамадзкасьць!

Няхай жыве сяброўская праца па санітарнай абароне нашай Чырвонай Арміі! Няхай жыве Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!

Няхай жыве саюз усіх братскіх Сацыялістычных Рэспублік!

Старшыня Украінскага Т-ва Чырвонага Крыжу **Буцэнко.**

## З жыцьця нашае школы

*(Мэд. школа Чырвонага Крыжу)*

За паўтары гады існаваньня нашае школы яна з невялікай колькасьці рознашэрстнага складу вырасла ў дастаткова спаяны, арганізацыйна афармлены калектыў у 180 чал.

У арганізацыйным афармленьні і якасным палепшаньні працы школы адыграў ролю і новы прыём, які даў значную колькасьць работніц, сялянак і тэх. пэрсоналу больніц.

Той факт, што зараз у школе ёсьць досыць моцная партыйная і камсамольская ячэйкі, тое, што навокал школы створана належная грамадзкая атмосфэра, што гэта ўжо не „санітарныя курсы“ і не „сястрынскія курсы“, як раней гаварылі аб нас, а што гэта 3-хгадовая Мэд. Школа, з ясна выражанай спэцыяльнасьцю і ясна пастаўленымі задачамі,—усё гэта разам узя-

тае грунтоўна зьмяніла нашае становішча. Лепшы настрой таварышоў і большая акадэмічная пасьпяховасьць і былі вынікамі лепшага становішча школы. Праўда, тут яшчэ мае вялікае значэньне і тое, што параўнаўча з іншымі сярэднімі навучальнымі ўстановамі мы досыць дастаткова матар'яльна забясьпечаны: існуючых стыпэндый ёсьць дастатковы лік, усе стыпэндыяты забясьпечаны інтэрнатам і г. д.

Вось кароткі нарыс нашага жыцьця. Усё пералічанае было дасягнута паўтара-гадовай інтэнсыўнай працай партыйнай і комсамольскай ячэйкамі, прафсаюзнай арганізацыяй і, бязумоўна, адміністрацыяй школы.

Зараз прысьпеў ужо час прагледзіць свае шэрагі: каго навучае школа і ці ўсе студэнткі адпавядаюць тым задачам, якія зараз пастаўлены перад сярэднім мэдпэрсаналам і якія высоўвае партыя і савецкая ўлада?

У нас праводзіцца сыстэматычная чыстка школы ад сацыяльна чужых нам элемэнтаў. Адпаведнымі школьнымі арганізацыямі праводзіцца штодзенная праверка таварышоў, штодзеннае вывучэньне і выяўленьне іх.

У выніку гэтай праверкі 5 чалавек выключаны, аб некаторых яшчэ вядзецца перапіска з мясцовымі арганізацыямі.

У тым, што ў школу папалі чужыя нам людзі, вінаваты выключна мясцовыя чырвона-крыжныя арганізацыі. Апошнія маюць пэўную манаполію на месцы ў школе і ім прасачыць, каго яны пасылаюць, лягчэй, чым Прыймовай Камісіі ЦК, якая робіць гэта праз пісьмовыя рэкамэндацыі мясцовых Камітэтаў.

І тут паўстае пытаньне: хто лепей ведаў, што ўжо другі год як у школе вучацца папоўская і кулацкая дочкі і дзяржава з Чырвоным Крыжам на іх сыпяць грошы—Менскі Акруговы Камітэт, ці Прыймовая Камісія ЦК? Панашаму—Менскі Акруговы Камітэт. Таксама, бязумоўна, Віцебскі Камітэт лепей ведаў, што *Каплан* (сястра асноўнага працаўніка Акруговага К-ту Чырв. Крыжу)—дачка нэпмана, пазбаўленага права выбару ў Саветы. Гэтыжа самы Камітэт прыслаў у школу *Старыковіч*, бацькі якой пад бокам Акруговага К-ту ў горадзе маюць гандаль і г. д.

Гэтыя ўсе студэнткі звольнены цяпер са школы.

Хутка набліжаецца новы навучальны год, хутка будзе новы прыём. Мы павінны ўлічыць памылкі мінулага, каб не паўтарыць іх і на гэты раз.

Побач з вялікай чуласьцю і насцярожанасьцю С/Саветаў, у іх таксама часта бываюць памылкі ў выдачы патрэбных дакумантаў. Трэба і гэтага ўнікаць.

Праверка як дакумэнтаў, так і самых таварышоў Акруговымі і Раённымі Камітэтамі Чырвонага Крыжу дапаможа забясьпечыць здаровы сацыяльны склад нашае школы, а гэта—забясьпека ўсёй нашай далейшай працы.

Студэнтка **Файнбэрг.**

## Падзяка ад беларускіх вучыцялёў і школ у Латвіі

*Таварыству Беларускага Чырвонага Крыжу!*

Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі, атрымаўшы бібліатэчкі і падручнікі для беларускіх незаможных дзяцей у Латвіі, складае ад імя тутэйшых нашых вучняў і школ гарачую падзяку *Таварыству Беларускага Чырвонага Крыжу* за зробленую ім вялікую дапамогу.

Таварыства Беларускіх вучыцялёў спадзяецца, што і ў будучыне *Чырвоны Крыж* не адмовіць у падтрыманьні беларускім дзецям і вучням у малазямельнай і безьзямельнай Латгальшчыне.

Да ведама *Таварыства Беларускага Чырвонага Крыжу* маем гонар давесьці, што надасланыя Вамі нам кнігі мы тутака ўхвалілі не падзяляць паміж вучнямі на ўласнасьць, а замацаваць за школамі беларускімі ў Латгаліі і ў Рызе на гэтакіх варунках:

1. Кнігі лічацца ўласнасьцю школы і запісваюцца ў школьны каталёг і інвэнтар на папаўненьне бібліатэкі.

2. Кожны незаможны вучань атрымоўвае са школьнае бібліатэкі кнігі і падручнікі на патрэбны яму час, а потым зьвяртае ў школьную бібліа-

тэку, каб гэтымі-ж кнігамі маглі карыстацца ў наступным годзе іншыя вучні.

3. Школьныя працаўнікі павінны даглядаць за тым, каб кнігі трымаліся ў добрым стане і каб карыстаньне імі было забясьпечана ў працягу як мага большага шэрагу гадоў.

З грамадзкім прывітаньнем і шчырай падзякай:

Старшыня Таварыства беларускіх вучыцялёў **К. Езавітаў.**

Сябры праўленьня: **Г. Плыгаўко, С. Сыцько, Г. Нікіфароўская.**

Сакратар **М. Краўчанка.**

## *У БЕЛАРУСКІ ЧЫРВОНЫ КРЫЖ*

Гэтым школьная Рада Дзьвінскае Беларускае Пачатковае школы выказвае шчырую падзяку за ахвяраваныя кніжкі для школьнае бібліатэкі. Школьная Рада ўвесь час руліцца аб павялічэньні школьнае бібліатэкі, але таму, што каля 80 % бацькоў вучняў зьяўляецца беспрацоўнымі, — яны нічым ня маюць магчымасьці дапамагчы школе ў набыцьці кніг. Безграшова высланая Чырвоным Крыжам бібліатэчка прынесла вялікую радасьць пачатковай школе і яшчэ вялікшую карысьць прынясе яе вучням. Школьная Рада яшчэ раз шчыра дзякуе Чырвонаму Крыжу за зробленую дапамогу і спадзяецца, што Дзьвінская Беларуская пачатковая школа ня будзе забыта і ў будучыні.

Са шчырым прывітаньнем:

Старшыня Школьнае Рады **А. Райкоў.**

Кіраўнік школы **А. Барткевіч.**

# Пакстон Гіббэн

Вядомы амэрыканскі журналісты і друг Савецкага Саюзу *Пакстон Гіббэн*—памёр. Памёр перадчасна, у росквіце сваіх сіл. Ён быў сапраўдным, шчырым другам Савецкага Саюзу, і ў свой час, калі Паволжа і Каўказ цярпелі страшны голад, Пакстон Гіббэн прынёс ня мала карысьці ў барацьбе з гэтай бядой. Асабліва памятны будуць яго зусільлі ў барацьбе за дапамогу нашым дзецям, якіх ён любіў выключнай цяплынёй. Сам, сваёй уласнай энэргіяй, ён сабраў на гэтую справу ў капіталістычнай Амэрыцы ня мала грошай і ўратаваў не адно жыцьцё галоднага дзіцяці.



Ганаровая варта пры урне П. Гіббэна ў ЦК Бел. Т-ва Чырв. Крыжу.

Сам Пакстон Гіббэн па паходжаньні ня быў сынам рабочае клясы. Ён паходзіў з заможнае амэрыканскае сям'і, і толькі чалавечая чэснасьць, любоў да праўды і захапленьне змаганьнем пралетарыяту за сваё вызваленьне паставілі яго ў шэрагі друзей Рэвалюцыі. Амэрыканскі банкаўскі, капіталістычны сьвет ня мог дараваць Пакстону Гіббэну любві да рэвалюцыі і падтрыманьня Саветаў. Паўсюды гэты энэргічны энтузіясты быў перасьледваны,—ён быў чужым пры жыцьці сярод ранейшых „сваіх“. Таму ня дзіва, што перад сьмерцю ён пажадаў быць пахаваным у краіне Саветаў,—там, дзе ён пэражыў па ўласнаму прызнаньню лепшыя гадзіны свайго гарачага і разнастайнага жыцьця.

Чырвоная Масква прыняла ў сваю зямлю гэтага чэснага чалавека, і пераможныя чырвоныя штандары ў момант пахаваньня яго схіліліся над яго магілай. Пахаваны ён побач з сваім сябрам па працы—вядомым амэрыканскім пісьменьнікам Джонам Рыдам. Тут-жа недалёка ляжыць і наш Фурманаў.

Упяршыню урна з прахам Пакстона Гіббэна прыбыла ў межы Саветаў—у Савецкую Беларусь. Нашая грамадзкасьць у выглядзе Чырвонага Крыжу і прадстаўнікоў Беларускага Т-ва культурнае сувязі з замежжам пачэсна спаткала прах свайго друга. На ст. Менск 2-га лютага была выстраена Менская Санітарная Дружына з вайсковым аркестрам музыкі. Пад гукі рэвалюцыйнага пахавальнага маршу урна была перанесена ў памяшканьне ЦК Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу, дзе адбылася грамадзкая паніхіда з жалобнымі прывітаньнямі ад Ураду БССР і грамадзкіх арганізацый. За час прабываньня урны ў ЦК пры ёй была пастаўлена ганаровая варта з дружыньніц і сясьцёр Мэдычнае Школы.

Увечары таго-ж дню урна з прахам Пакстона Гіббэна была накіравана ў Маскву, дзе ўрачыстае і грандыёзнае спатканьне, прысьвечанае памяці друга, наладзіў Выканком Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР, Усесаюзнае Таварыства культурнае сувязі з заграніцай і Таварыства „Прыхільнік Дзяцей". Дзесяткі тысяч савецкіх грамадзян, у тым ліку вялізарныя натоўпы дзяцей, праводзілі свайго друга да месца апошняга пахаваньня.







1. Урна з прахам Пакстона Гіббэна

2. У паходзе.

3. Чакаюць на ст МББ.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Усім сакратарам Акруговых К-таў Чырвонага Крыжу

На сазываемым 3-га мая гэтага году пленуме ЦК сумесна з сакратарамі Акруговых К-таў сярод іншых пытаньняў ставіцца пытаньне „Ітогі зімовай кампаніі Чырвонага Крыжу". Пастаноўка гэтага пытаньня можа мець станоўчы характар, пры ўмове поўных усебакова-вычэрпваючых матар'ялаў з месц. Даць правідловы аналіз нашай грамадзкай дзейнасьці ў праробленым і даць правідловую ўстаноўку на будучыя этапы працы вельмі неабходна, тым больш, што бягучы пэрыяд вельмі багат шматграннасьцю пастаўленых задач перад Чырвона-Крыжнымі арганізацыямі. У нашай практыцы безварункова шмат станоўчых, яскравых момантаў, маецца і вялізарная колькасьць недахватаў у нашай працы. Як недахваты, так і станоўчыя бакі для карысьці справы павінны быць на пленуме старанна выясьнены і вывучаны. Усе праробленыя галіны працы нашага Т-ва павінны будуць падвергнуцца лютай крытыцы, крытыцы з фактамі ў руках, чым забясьпечым пэўнасьць нашых прапаноў для ўхіленьня недахватаў у далейшым.

Правідловае вырашэньне на Пленуме ітогавага пытаньня са ўсёй адказнасьцю ставіць перад Акруговымі К-мі Чырвонага Крыжу падрыхтоўку і сваечасовую прысылку ў Цэнтральны Камітэт вычэрпваючых матар'ялаў; асабліва ўважліва да распрацоўкі і прысылкі матар'ялаў павінны аднесьціся практычныя працаўнікі Чырвонага Крыжу—Акруговыя сакратары. Матар'ял павінен быць прадстаўлен у ЦК не пазьней 15-га красавіка ў разрэзе наступных пытаньняў:

1) Матар'ялы, асьвятляючыя ход перавыбарчай кампаніі, і вынікі яе.

2) Рост арганізацый за зімовы пэрыяд; як выконваюцца дырэктывы ЦК аб росту арганізацыі і рэгуляваньні сацыяльнага складу.

3) Матар'ялы Тыдню Чырвонага Крыжу, малюючыя выкананьне дырэктыў ЦК і мясцовых арганізацый.

4) Рост Гурткоў Першай Дапамогі, іх колькасьць, колькасьць асоб, ахопленых гурткамі і скончыўшых гурткі. Арганізацыя санітарных дружын па нашаму мэтадычнаму лісту.

5) Матар'ялы кампаній па збору сродкаў на санітарны самалёт.

6) Падрыхтоўка да вяснова-летняй працы, у прыватнасьці конкурс на лепшую ячэйку.

7) Выконваемасьць бюджэту ў прыбытках і выдатках. Якія ўнесены зьмены Пленумам Акр. К-ту ў бюджэт, зацьверджаны ЦК.

Практычнае прымяненьне ў працы рашэньняў 2-га Ўсебеларускага Зьезду і апошняга пленума ЦК, асабліва ў частцы санітарнай абароны і ахапленьні Гурткамі Першай Дапамогі Жактаў, прадпрыемстваў, сельсаветаў, калгасаў і саўгасаў. Пытаньні санітарна-бытавога будаўніцтва павінны быць асьветлены, асабліва ў частцы вадаснабжэньня і будаўніцтва лазьняў. Пералічаны перачэнь пытаньняў прапануецца як аснова матар'ялаў. Акруговыя К-ты на мясцох павінны выявіць ініцыятыву ў распрацоўцы поўных матар'ялаў, ахапляючых усе галіны Чырвона-Крыжнай дзейнасьці.

Нам. Старшыні ЦК Чырв. Крыжу **Кандрашук.**

# РОЗНАЕ

## Куды падзеліся сакратары Акруговых Камітэтаў

Мы лічым абавязковым і сваечасовым паставіць гэтае пытаньне рубам: куды падзеліся і што робяць сакратары нашых Акруговых Камітэтаў?

Калісьці—і ня так ужо даўно, хутка пасьля 2-га зьезду нашага Таварыства, адбылася, як ведама, у Цэнтральным Камітэце нарада таварышоў, якія зьяўляюцца „пружынамі" працы на мясцох,—нарада Сакратароў Акруговых Камітэтаў. Тыя, хто быў на гэтай нарадзе, добра павінны памятаваць той запал і тую актыўнасьць, якую выявілі яе ўдзельнікі ў спрэчках па розных пытаньнях. Але, на вялікі жаль, іхняга запалу і іхняй актыўнасьці хапіла толькі на „спрэчкі" пад час пасяджэньня. Даволі было Акруговым Сакратаром разьехацца па хатах,—як яны забыліся аб усіх сваіх абяцанках „працаваць да пераможнага канца".

І што асабліва сумна,—у даным выпадку няма нават выключэньняў. „Заснулі" пасьля прыезду ў сваю акругу ня толькі тыя, якія мала гаварылі на нарадзе, але заспаліся і тыя, хто на нарадзе голасна падаваў каштоўныя думкі, выяўляў ініцыятыву, зьбіраўся запраўды папрацаваць на чырвона-крыжнай глебе.

Дзіўная рэч, але гэта факт: з таго часу, як адбылася нарада,—а вады з таго часу ўцякло ня мала,—ад нашых акруговых сакратароў ня чуваць ні слуху, ні духу. Усе Аддзелы ЦК скардзяцца: з Акруг няма дакладных вестак аб руху сяброў Таварыства, няма адтуль сваечасовага паступленьня грашовых справаздач і меркаваньняў, няма ніякіх вестак, як праводзяцца тыя або іншыя кампаніі і г. д. Рэдакцыя нашага „Бюлетэню" знаходзіцца ў тым жа становішчы: ад „палкіх" Акруговых Сакратароў, ад усіх гэтых „цыцэронаў" на словах не паступіла амаль ніводнага радка на пісьме.

У адным з апошніх нумароў „Бюлетэню" гаварылася аб акруговых сакратарох, як аб жывой сіле Т-ва. У гэтым артыкуле выказваліся зусім правідловыя заўвагі на тое, што ад акруговых таварышоў залежыць амаль усё ў нашай агульнай

працы. Ім гаварыліся кампліманты, ад іх ЦК чакаў плённай і чыннай працы.

І што-ж вышла? Ды нічога! Перагледзьце, калі ласка, цяперашні нумар „Бюлетэню“. Ці шмат знойдзеце Вы тут прозьвішчаў акруговых сакратароў? Здаецца, што ніводнага.

Усё гэта наводзіць на невясёлыя разважаньні. Мы чакалі, што нас будуць „засыпаць“ запытаньнямі, карэспандэнцыямі, матар'яламі. А між тым, ні першага, ні другога, ні трэцяга няма.

Адно з двох: або нашым Акруговым Сакратаром ня цікавы ЦК і дзейнасьць Таварыства ў цэлым, або яны самі мала што робяць на мясцох, каб апраўдаць сваё існаваньне.

Адказаць на гэтае дражлівае і важнае запытаньне прыдзецца, відаць, на чарговым Пленуме Цэнтральнага К-ту, які спраэктаваны на першыя дні траўня месяца.

Бязьдзейнасьць і нядбайнасьць тарышоў з акруг асабліва кідаецца ў вочы на фоне тае актыўнасьці, якая расьце непасрэдна ў чырвона-крыжных нізах. Мы ня можам ня бачыць, што ў гэтых нізох, у раёнах, на прадпрыемствах, у Гурткох Першае Дапамогі, на вёсцы, ва ўсім ячэйкавым актыве— надзвычайна выразна расьце зацікаўленасьць да Чырвонага Крыжу, расьце жаданьне працаваць і разьвівацца. Гэтае зьявішча безварункавае і вельмі пацяшаючае. Прынамсі, у Цэнтральным Камітэце склалася гэткае ўражаньне.

Мы ведаем, што сярод Акруговых Сакратароў ёсьць добрыя грамадзкія працаўнікі. Дзе-ж яны, чаго яны чакаюць?

**Алесь Галынец.**

# Падпісаліся і выклікаем

2-гі Акруговы пашыраны Пленум Менскага Акруговага Камітэту Т-ва Чырвонага Крыжу, заслухаўшы інфармацыю тав. *А. Цьвікевіча* аб „Бюлетэні“, яго задачах і пераходзе на самааплату, пастанавіў: падпісацца на „Бюлетэнь“ усім сваім асабістым складам.

На падставе гэтага Менскі Акруговы Камітэт Чырвонага Крыжу выклікае пасьледваць яго прыкладу Акруговыя Камітэты Чырвонага Крыжу: Гомельскі, Магілеўскі, Аршанскі, Мазырскі, Віцебскі, Бабруйскі і Полацкі, а таксама ўсіх сяброў Райкамітэтаў і ўвесь актыў Чырвонага Крыжу Менскае Акругі.

*Усе за пашырэньне кіруючага органу—„Бюлетэню“ ЦК Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу!*

*Усе за ўдзел у „Бюлетэні“!*

**Менскі Акруговы Камітэт.**

## ЗЬМЕСТ

Стар.

Пастанова Прэзыдыуму ЦВК БССР ад 2 сакавіка 1929 г. па дакладу т. М. Барсукова аб працы ЦК Беларускага Т-ва Чырвон. Крыжу . 3

*М. Барсукоў*—На новым этапе працы . . . . . . . . . . 7

*Аляксандр Цьвікевіч*—Сканчэньне барацьбы паміж Міжнародным Камітэтам і Лігай Чырвоных Крыжоў . . . . . . . . . 9

*М. Кандрашук*—Дзейнасьць Чырвонага Крыжу ў разрэзе акруговых арганізацый . . . . . . . . . . . . . . . . . 14

*А. Сабалеўскі, д-р*—Міхайлаў дзень у в. Лошніцы, на Барысаўшчыне . 16

## НА МЯСЦОХ

*В. Астрэйка*—Студэнты Мэдфаку БДУ супрацоўнічаюць з Чырвоным Крыжам . . . . . . . . . . . . . . . . . 18

*Фішман*—У вёсцы Капаткевічы (Мазыршчына) . . . . . . . . 19

*Эм. Піладзе*—Што даў мне Гурток Першай Дапамогі (Гомэль) . . 21

*В. Іванова*—На пасажырскай станцыі МББ (Менск) . . . . . . —

*Язэп Купцэвіч*—Бедната за Чырвоны Крыж (у в. Пацкі) . . . . 22

*Лугаўцоў*—Талачынскі Раённы Камітэт Чырвонага Крыжу . . . . 23

*Галена Цьвікевіч*—У глушы Магілеўшчыны (вёска Буда-Баравая) . . 24

*А. Сабалеўскі, д-р*—Барысаўская вайскова-санітарн. дружына за працай 25

*П. Лук'янін*—На Полаччыне (Расонскі раён) . . . . . . . . 27

*Ханкіна*—У Гомэльскай ячэйцы пры Саюзе Камунальнікаў . . . . 28

*Гінзбург і Стукалава*—У Гомэльскім Таварыстве Саматужнікаў . . 29

*П.*—Схамянецеся! . . . . . . . . . . . . . . . . 30

*Лявонцява*—Як мы пачалі працаваць . . . . . . . . . . 31

*Майсюкевіч*—Выпуск Гуртка Першай Дапамогі пры клюбе Ільліча МББ 31

*Ф. Ціхантоўскі*—Усебеларускі смотр Чырвоных Казармаў . . . . 32

*Ф. Ціхантоўскі*—Куток Чырвонага Крыжу ў Цэнтральным доме Селяніна (Менск) . . . . . . . . . . . . . . . . . 33

*А. Вяржбіцкі*—У Капыльскім раёне . . . . . . . . . . 34

*Ф. Кусьцікаў*—Чырвоны Крыж на гаспадарчым фронце . . . . . 35

## ХРОНІКА

*Стар.*

У Цэнтральным Камітэце . . . . . . . . . . . . . . 37
Весткі з-за мяжы . . . . . . . . . . . . . . . 38
У аддзеле Замежнай Дапамогі (А. Цьвікевіч) . . . . . . . —
З лістоў, падасланых у аддзел Замежнай Дапамогі . . . . . . 39
Тэлеграма-прывітаньне ад Украінскага Чырвонага Крыжу ў дзень 10-годзьдзя абвешчаньня БССР . . . . . . . . . . . . 40
З жыцьця нашае школы . . . . . . . . . . . . . . —
Падзяка ад беларускіх школ у Латвіі Бел. Чырв. Крыжу за дапамогу . 41
Пакстон Гіббэн . . . . . . . . . . . . . . . . 43

## АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

Усім сакратарам Акруговых Камітэтаў Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу . 45

## РОЗНАЕ

*Алесь Галынец*—Куды падзеліся Сакратары Акруговых Камітэтаў? . 47
Падпісаліся і выклікаем (аб падпісцы на „Бюлетэнь“ ЦК) . . . . . 48
Беларускаму Чырвонаму Крыжу—верш А. Зіміонка . . . . . . 49
Збор на санітарны самалёт . . . . . . . . . . . . . 50
Там, дзе няма чаргі . . . . . . . . . . . . . . . —

Дадатак

Адозва аб „Конкурсе на лепшую ячэйку“ . . . . . . . . . 52
Каўкаскія мінэральныя воды як сродак барацьбы з алкагалізмам і эпідэмічнымі захворваньнямі . . . . . . . . . . . . . 56

---

# Беларускаму Чырвонаму Крыжу

*(На матыў „Маладая Гвардыя“)*

Мы ў час вайны—на полі,
Мы там, дзе льлецца кроў,
Дзе ранены ніколі
Ня чуе братніх слоў!

Хутчэй туды, дзе гіне люд,
Дзе сьмерць спраўляе страшны суд
І уміраюць тысячы
Ад жудасных пакут!..

Мы там, дзе стогнуць людзі,
Дзе душыць немы жаль,
Дзе тне навылет грудзі
Жалеза, медзь і сталь...

Сястра і брат! Сьпяшай туды,
Дзе леглі першыя рады,
Дзе просіць цяжка ранены
Хоць кропельку вады!

Усім, хто ў бою ляжа,
Усякаму, хто ўпаў,
Мы раны перавяжам,
Паможам, каб устаў!

Бяжы туды, чырвоны брат,
Дзе без нагі ляжыць салдат,
Дзе бухнуў над акопамі
Атручаны снарад!

Мы вырвем іх з пакуты
І вынесем адтуль
З-пад газу і атруты,
З-пад пораху і куль...

Туды, чырвоная сястра,
Дзе дым плыве, як ад кастра,
Дзе людзі ў корчах мучацца,
І душу паліць страх!

Нікога мы ня кінем—
Ці вораг ён, ці брат,—
Хоць самі можа згінем
Ад стрэлаў, як салдат.

Хутчэй туды, дзе гіне люд,
Дзе правіць сьмерць крывавы суд
І уміраюць тысячы
Ад болю і пакут!

А тым, хто у палоне,
Мы хлеб дамо і кут,
Бо помста не ў законе,
Дзе правіць Вольны Люд!

Хто у палон да нас папаў,
Ён толькі вязьням нашым стаў!
Над ім ніколі зьдзекавацъ
Ніхто ня мае праў!

Бо наш Саюз заўсёды
Змагаецца з вайной,
Каб вольныя народы
Жылі аднэй сям'ёй!

Чужых зямель ня хоча ён,
А кліча ўсіх—з усіх старон
Для вечнай згоды братняе
І новых сьветлых дзён!

Мы клічам ўсе дзяржавы--
Здымайце ланцугі!
Хай згіне бог крывавы!—
Гарматы—на плугі!

Настане час! Паўстане люд!
Парве ланцуг адвечных пут!
І згіне зайздрасьць з войнамі
І дзікай помсты суд!

Даволі працы ў сьвеце
Для нас і без вайны,
З якое ні вазьмеце,
Ні гляньце стараны...

Чырвоны Крыж і ў мірны час
Ад чорных дзён бароніць вас
І дапаможа ўсякаму,
Як памагаў ня раз!

Плыве патопам горад,
Ў сяле гудзе пажар,
Чума, халера, голад—
Ня зьлічана ахвяр!

Сястра і брат! Туды сьпяшай,
Дзе льлюцца сьлёзы цераз край,
Каб накарміць галоднага,
Ї хворым помач дай!

Чырвоны Крыж усюды,
З усякаю бядой
Ваюе без маруды
Савецкай грамадой!

З сялянскіх ніў, з рабочых хат
Да нас ідзе сястра і брат
Змагацца, дзе ні прыдзецца,
За новы быт і лад!

**А. Зіміонка.**

## Збор на санітарны самалёт

*(на 1 красавіка 1929 г.)*

Збор на санітарны самалёт, які арганізаваў ЦК Беларускага Чырвонага Крыжу, ужо пачаўся. Першыя ўзносы зрабілі:

| | |
|---|---|
| 1) Ячэйка Чырвонага Крыжу Праўленьня Заходніх Чыгунак . . . . . . | 203 р. 62 к. |
| 2) Палеская ячэйка Чырвонага Крыжу Гомельскай акругі . . . . . . . | 14 р. 53 к. |
| 3) Бешанковіцкі Раённы Камітэт Чырвонага Крыжу (Віцебшчына) разам з вневайскавікамі Бешанковіцкага вучэбнага пункту . | 26 р. 62 к. |
| 4) Ячэйкі Гомельск. вуч. Камітэту Чырвонага Крыжу на Заходніх Чыгунках . . . | 232 р. 22 к. |
| 5) Ячэйкі Чырвонага Крыжу Мясцкомаў № 5 і № 7 Гомельскага вузла Заходніх Чыгунак (праз Ліцкевіча) . . . . . . . | 68 р. 70 к. |
| Разам . | 545 р. 69 к. |

Як відаць з гэтых лічбаў, чыгуначнікі Гомелю ў зборы на Санітарны Самалёт занялі адразу першае і пачэснае месца. Чакаем вестак з іншых акруг.

**Рэдакцыя „Бюлетэня“.**

## Там, дзе няма чаргі

Усе Акруговыя Камітэты Чырвонага Крыжу, асабліва іхнія тэхпрацаўнікі, зайздросьцяць Менскаму Камітэту, які знаходзіцца пад бокам ЦК. Калі што табе патрэбна па справе, кажуць яны, дык у цябе ёсьць магчымасьць скарыстаць таварышоў з ЦК. Але тут бабуля на двое казала—апошніх ня так лёгка прыцягнеш да працы. Бывалі выпадкі, калі таварышы

з ЦК „нагружаліся“—але выконваць прыходзілася іншым таварышом. Добра яшчэ, што маюцца акруговыя актывістыя, якія не адмаўляюцца і запраўды праводзяць вялікую працу.

Па дакладу аб дзейнасьці Менскага Акруговага Камітэту, які, даклад, быў заслуханы на адным з паседжаньняў прэзыдыуму ЦК, было ўхвалена, каб сябры апошняга ў парадку жывой чаргі прысутнічалі на пасяджэньнях Менскага Камітэту. Аднак, ня гледзячы на сваечасовыя паведамленьні, таварышы з ЦК „вельмі заняты“ і ня маюць магчымасьці прысутнічаць.

Вось вам, таварышы, „жывая чарга“. Вось вам і пастанова ЦК. Не шкадуйце, таварышы-акругоўцы, што не знаходзіцеся на месцы Менскага Камітэту, бо Менск—гэта-ж „беларуская Масква“.

**Іксвотнахіт.**

## БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

### ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ

# УСІМ ЯЧЭЙКАМ ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

*ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!*

Цэнтральны Камітэт Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу праводзіць з 15 красавіка па 15 мая 1929 г. **Усебеларускі конкурс на лепшую ячэйку.**

Трэба думаць, што Вашая ячэйка ня прымусіць сябе доўга чакаць і зробіць усё магчымае, каб заняць у гэтым конкурсе адно з першых месц. Вы павінны паказаць на справе максымум сваёй працаздольнасьці, ініцыятывы і дысцыплінаванасьці.

Як жа ўдзельнічаць у гэтым конкурсе?

Перш за ўсё, па атрыманьні гэтага паведамленьня, трэба склікаць агульны сход ячэйкі, на якім абгаварыць справу конкурсу, абмеркаваць свае недахопы і падумаць над тым, як іх выправіць. Гэты сход павінен паказаць сябрам ячэйкі, куды і на што павінны яны скіраваць сваю энэргію, каб дасягнуць найбольшага практычнага (а не на словах) эфэкту ад сваёй чырвона-крыжнай дзейнасьці. Пералік практычных дасягненьняў, па якіх праводзіцца конкурс і якія апісаны ніжэй, паказвае Вам, на што трэба зьвярнуць увагу.

Пасьля першага сходу, ячэйка павінна ўзяцца за работу і праводзіць яе бязупынна да 15 мая. За гэты час можна шмат чаго зрабіць. Не пазьней 15 мая павінен быць скліканы справаздачны конкурсны сход, на які павінны быць запрошаны ўсе сябры ячэйкі, рабоча-сялянская несяброўская маса прадстаўнікі партыйных і камсамольскіх арганізацый, сан. камісій пры С/С, а таксама прадстаўнікі брацкіх грамадзкіх арганізацый (Асоавіахім, МОПР, Прэч Няпісьменнасьць і г. д.). На сходзе можна арганізаваць пастаноўку нашай п'эскі („Справа будзе" ў „Бюлетэні" № 4-7 за 1928 г.), канцэрт або кіно.

На азначаным сходзе павінна быць прачытана і запоўнена справаздача ячэйкі, якая пры гэтым прыложана. Справаздачу належыць на другі дзень пераслаць у Цэнтральны Камітэт, які для правядзеньня конкурсу прызначыў спэцыяльнае журы.

Правядзеньне В/ячэйкай, паважаныя таварышы, конкурсу павінна знайсьці сабе адбітак у пэрыядычным друку і ў насьценгазэтах таго прадпрыемства або вёскі, у якіх працуе Вашая ячэйка. Уся справа конкурсу павінна, па думцы Цэнтральнага Камітэту, ажывіць работу Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ў цэлым і прыцягнуць да яго ня толькі ўвагу нашае савецкае грамадзкасьці але і новыя кадры актыўных сяброў.

*ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ*
*БЕЛАРУСКАГА Т-ВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ*

# ПРЭМІІ

**Для лепшых ячэек устаноўлены наступныя ўзнагароды-прэміі:**

1) Камплект жалезабэтонных колаў для студні.

2) Абарудваньне чырвона-крыжнага санітарнага кутка.

3) Поўнае абарудваньне ясьляў на 25 дзяцей.

4) Абарудваньне дэзынфэкцыйнай камеры пры мясцовай лазьні.

5) Поўнае снабжэньне маемасьцю зьвяна санітарнай дружыны пры ячэйцы.

6) Аптэчка Першае Дапамогі.

7) Бібліятэка санітарнага характару.

8) Бібліятэка чырвона-крыжнага характару.

9) Поўная малюнковая выстаўка па ахове мацярынства і младзенства.

10) Поўная малюнковая выстаўка па барацьбе з алкагалізмам.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны ў „Бюлетэні" Цэнтральнага Камітэту, пры чым там-жа будуць зьмешчаны фота-здымкі і апісаньні найлепшых ячэек.

---

Гэты ліст трэба адарваць, запоўніць
прыслаць у Цэнтральны Камітэт.
Менск, вул. Карла Маркса, 3.

**У ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСК. Т-ВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ**

# СПРАВАЗДАЧА НА КОНКУРС ЛЕПШАЙ ЯЧЭЙКІ

**Ад ячэйкі** ..........

1) Калі арганізавалася ячэйка ..........

2) Лік сяброў у ячэйцы: на 1 студзеня 1929 г. ..........

на 15 мая 1929 г. ..........

3) Сума сабраных сяброўскіх узносаў за апошні 27/28 г. ..........

4) Колькі сяброў не ўнясло сяброўскіх узносаў да 15/V 1929 г. ..........

5) Колькі было сходаў ячэйкі ад 1/IX 1928 г. да 15/V 1929 г. ..........

..........

6) Дзе і на якія тэмы былі пастаўлены даклады, справаздачы, лекцыі і інш., зьвязаныя з працай ячэйкі і Чырвоным Крыжам ..........

..........

..........

..........

..........

7) Колькі сяброў ячэйкі ўдзельнічае ў гуртках і Дружынах Першае Дапамогі на 15/V-1929 г. і колькі прайшло ўжо праз гурткі ..........

..........

..........

8) У якіх паходах і ў якой сан. рабоце ўдзельнічала ячэйка ў цэлым ці яе сябры паасобку ..........

..........

..........

9) Якую працу правяла ячэйка па аздараўленьню быту і працы*) і г. д.

1) рабочых на прадпрыемствах ..............................

..............................

..............................

2) сялян на вёсцы ..............................

..............................

..............................

..............................

3) вучняў у школе ..............................

..............................

..............................

4) дзяцей ..............................

..............................

..............................

10) Якія заметкі зьмясьціла ячэйка ў насьценгазэце і пэрыядычнай прэсе**)

..............................

..............................

..............................

11) Колькі падпішчыкаў на „Бюлетэнь" сабрала ячэйка на 1929 г. ..............................

12) Якая з гэтых прац выканана ячэйкай па ўласнай ініцыятыве ..............................

..............................

..............................

„........" ............................1929 г.

*Подпісы:*

*Сябры ячэйкі* ..............................

..............................

*Прадстаўнік МОПР'у* ..............................

*Прадстаўнікі іншых грамадзк. арг.* ..............................

---

*) Тут трэба паказаць на практычную працу, як-та: пастаўлена аптэчак на фабрыках, зроблена мэд. дапамогі, ачышчана памяшканьняў і двароў, зроблена вэнтыляцый (форткі ў хатах), збудавана (або пачата будаваньнем) студняў, лазьняў, арганізавана ясьляў, дзіцячых пляцовак, гарачых сьнеданьняў для дзяцей у школах і г. д.

**) Па магчымасьці гэты матар'ял пажадана атрымаць у рэдакцыі „Бюлетэня" ЦК.




# Каўкаскія мінэральныя воды як способ барацьбы з алкагалізмам і эпідэмічнымі захвараваньнямі

Э. Карстэнс, знаўца каўкаскіх мінэральных вод, канчае свой артыкул аб апошніх так: на жаль, пры нязвычайнай дасьведчанасьці ў Каўкаскіх мінэральных водах, дагэтуль існуюць самыя фальшывыя паняцьці аб лекавым значэньні і ўжываньні некаторых з іх і ня толькі сярод прафанаў неасьвечанае правінцыі, а нават сярод культурных, перадавых людзей [1]).

Гэтыя словы Карстэнса ў нас у Беларусі захавалі сваё значэньне і дагэтуль, бо, за невялікім выключэньнем, тут яшчэ не ацанілі сацыяльнага і мэдычнага значэньня Каўказкіх мінэральных вод, у сэнсе барацьбы з алкагалізмам і рознымі хваробамі.

Але зараз у гэтых адносінах мы заўважаем крок наперад: на неабходнасьць шырокага распаўсюджваньня сталовых Каўкаскіх мінэральных вод зазначае Саўнарком СССР і НК Аховы Здароўя БССР [2]).

НК Гандлю БССР у абежніку за 9 сакавіка г. г. прапануе ўсім гандлюючым організацыям ужыць неабходныя захады да максымальнага павялічэньня збыту Каўкаскіх мінэральных вод, асабліва Нарзану і Эсэнтукі № 20. Бязумоўна, усё гэта зробіць уплыў у памысным сэнсе на ўжываньне Каўкаскіх мінэральных вод, якія за апошнія гады сярод працоўных мас БССР робяцца паступова ўсё больш і больш папулярнымі, што відаць з наступных даных Менскага цэнтральнага складу: у 1924 г. было прадана 41000 п/бутэ-

[1]) „Кавказские минеральные воды", изд. Кавминэкспорта, Пятигорск, 1927.

[2]) Ст. Ю. Ларина, Известия ЦИК'а от 24/II 1929.

лек, у 1925 г.—79000 п/бут., у 1926 г.—324000 п/бут., у 1927 г.—500000 п/бут. і ў 1928 г.—550000 п/бутэлек.

Аднак ужываньне Каўкаскіх мінэральных вод у параўнаньні з колькасьцю выпітых за гэты-ж пэрыяд сьпіртавых напояў—гарэлкі, віна, піва, і г. д. зьяўляецца вельмі мізэрным.

Гарэлку п'юць з розных прычын. Адны ўжываюць таму, што лічаць, што гарэлка „пасіляе“, іншыя—што яна „праганяе смагу“; большасьць п'е дзеля гульні, але ёсьць і такія, для якіх гэта стала фізыялёгічнай патрэбнасьцю.

Вось чаму барацьба процi ўжываньня сьпіртавых напояў і за ўжываньне мінэральных вод будзе ня лёгкая.

Побач з абежнікамі аб распаўсюджваньні мінэральнных вод, побач з продажамі ва ўсіх сталоўках і наогул мясцох зграмаджэньня людзей, побач з прапагандай аб шкоднасьці ўжываньня сьпіртавых напояў, —спосабам у гэтай барацьбе зьяўляецца таксама прапаганда карыснасьці ўжываньня мінэральных вод. Між тым у гэтым апошнім напрамку нічога, ці амаль нічога, ня зроблена і ня робіцца.

Калі дактары ў патрэбных выпадках рэкамандуюць ужываньне лекавых мінэральных вод: „Эсэнтукі“ № 4, 17, 18, боржомскую, баталінскую і інш. воды, то сталовыя Каўкаскія мінэральныя воды—Нарзан і Эсэнтукі № 20 амаль зусім пакідаюцца бяз увагі. Гэта можна тлумачыць толькі недаацэнкай якасьцяў і значэньня іх [1].

Фальшывасьць пагляду, што алкаголь памысна ўплывае на організм чалавека, цяпер ужо навукова даведзена.

Досьледы нямецкіх вучоных Шмідэбэрга і Крэпэліна давялі, што ўплыў сьпіртавых напояў нават пры невялікіх дозах ужытага алкаголю выяўляецца ў паралюшы тых цэнтраў, якія зьяўляюцца органамі ўвагі і самакантролю. Гэта дапамагае злачыннасьці, робіць чалавека пасьля першых чарак балбатлівым, занадта рухавым, выклікае ў ім нечаканыя звароты мысьлі, мовы і паводзін. Пры павялічаньні колькасьці выпітых сьпіртавых напояў настае „аглушэньне“ вышэйшых цэнтраў: трацiцца сьвядомасьць учынкаў, пачуцьцё болю. Пасьля пахмельля—боль галавы, агульная кволасьць, разьбітасьць млоснасьць [2].

Зусім іншы, процілеглы ўплыў маюць на чалавека мінэральныя воды, у прыватнасьці Нарзан і Эсэнтукі № 20.

Ня кажучы ўжо аб тым, што, праганяючы смагу, яны асьвяжаюць і звольна ўзварушваюць, падымаюць настрой чалавека,—яны займаюць адно з першых месцаў пры нармальным працэсе страўленьня і даюць добрыя вынікі пры жалудкавых захворваньнях.

Нарзан, будучы багатым на вугляна-квасныя газы, узмацняе рух кішак і сэкрэторную дзейнасьць стрававальных залоз і сьлізаватых абалонак, павялічвае колькасьць мачы, памагае распусканьню фасфарытаў, а яго вугляна-квасныя солі дапамагаюць лепшаму распусканьню мачавой кісласьці і памысна ўплываюць пры катаральных захворваньняў мачавых пуцей.

Эсэнтукі № 20 дапамагае правільнаму страўленьню, нішчыць цэлы шэраг дыспэптычных прыпадкаў: адрыганьне, пякотку, млоснасьць і дапамагае правільнаму дзеяньню кішэчніка.

Эсэнтукі мае яшчэ тую ўласьцівасьць, што пры ап'яненьні дапамагае выдзяленьню алкаголю з організму, чым хоць трохі памяншае шкоду ад алкаголю.

Эсэнтукі № 20, асабліва Нарзан, прыемныя на смак напоі.

Важнае значэньне маюць Нарзан і Эсэнтукі № 20 і ў барацьбе з эпідэмічнымі хваробамі.

З тае прычыны, што яны крыху даражэй ад зэльтарскай вады, квасу і ліманаду і што апошнія больш як бы „смачныя“, працоўныя масы больш ужываюць зэльтарскую, квас і ліманад.

Між тым гэтыя штучныя напоі, калі прыняць пад увагу становішча нашых вадаправодаў і тое, што гэтыя напоі, не зважаючы на забарону,

[1] Арт. аб Каўкаскіх мін. вод. у газ. „Рабочий“ 27 г. № 154.
[2] Арт. аб алкагалізме БСЭ, т. 2, стар 23/4.

часта робяцца з сырой вады, яны ў параўнаньні з Нарзанам і Эсэнтукамі № 20, бязумоўна, зьяўляюцца шкоднымі, іх роля ў распаўсюджаньні эпідэмічных захворваньняў зьяўляецца вядомай!

Зусім іншая справа—Каўкаскія мінэральныя воды.

Яны наліваюцца ў бутэлькі непасрэдна з горных крыніц з захоўваньнем усіх правіл санітарыі.

Пры гэтых умовах яны ня могуць зьмяшчаць у сабе бактэрый, якія выклікаюць захворваньні.

Да-рэчы тут будзе напомніць аб вядомым выпадку, які меў месца ў 1927 г. у Растове н/Д. Калі там папсаваўся вадаправод, то ў мэтах барацьбы з эпідэміяй было шырока выкарыстана ўжываньне сталовых Каўкаскіх мінэральных вод.

Усе захапляюцца лекавым значэньнем Каўказу, але паехаць туда лячыцца ня кожны мае магчымасьць.

Між тым, справа ня столькі ў клімаце Каўказу, ня столькі ў яго сонцы, ня кажучы ўжо аб яго харастве, колькі ў яго мінэральных водах.

А гэтыя воды ёсьць усюды ў Беларусі, і, значыцца, кожны можа мець „Каўказ" у сваёй хаце.

Такім чынам, адным з асноўных мерапрыемств у барацьбе з алкагалізмам і эпідэмічнымі захворваньнямі зьяўляецца пашырэньне Нарзану і Эсэнтукоў № 20 і ўжываньне іх.

Ніводнае сталоўкі не павінна быць бяз іх!

Кожны доктар, кожны сьвядомы грамадзянін павінен агітаваць за іх сярод працоўных мас.

Шляхам адпаведных лекцый на прадпрыемствах трэба ўкараняць у сьвядомасьць працоўных мас, што ўжываньне сьпіртавых напояў выклікае атручэньне організму, а ўжываньне Нарзану і Эсэнтукоў № 20 узмацняе здароўе.

---





# БЮЛЕТЭНЬ
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСК-
ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

SOCIETE DE LA CROIX ROUGE
DE LA RUTHENIE-BLANCHE
BULLETIN DU COMITÉ CENTRAL

4-6
1929

